# Зьмест.


на балонцы

1. * * * (верш) — А. Б. . . . . . 1
2. Угодкі. . . . . . . . . . . . . . . 2
3. Студэнскім шляхам—інж. А. Клімовіч . . 4
4. Аб гістарычных імёнах Беларусаў — І. Сланеўскі . . . . . . . . . . . . 8
5. Агляд творчасьці Міхася Чарота — В—іч 12
6. Ad astra — Аўгень Бартуль . . . . . . 18
7. Дзе вы? (верш) — А. Б. . . . . . . . . 19
8. Станку (верш)—Аўгень Бартуль . . . . 20
9. Багаславенны (верш) — Алеся Ц. . . . 20
10. Другу (верш)—Міхась Тулейка . . . . . 21
11. Слова а палку Ігараве — Б. Стэповіч . . 21
12. Аб польскім студэнстве У. С. Б. і яго адносінах да беларускага студэнства — Я. Зянюк. . . . . . . . . . . . . . 24
13. Аб беларуска-літоўска-украінскім студэнскім збліжэньні— Я—іч. . . . . . . 28
14. Беларуская Акадэмія Навук у Менску—Я-іч 29
15. Хроніка . . . . . . . . . . . . . . 31
16. Адозва АБСА. — (на вокладцы).


## Паштовая скрынка.

На выдавецкі фонд „Ст. Думкі“ атрымалі: праз кал. Я. Шутовіча — ад кс. Глякоўскага — 10 зл., кс. Ромэйкі — 24 зл.; праз кал. Т. Куніцкага — ад Станкевіча — 1 зл. Мятлы — 1 зл., Н.М. і Н.Б. па 50 гр.; праз кал. Яз. Клагіша — ад А. Клагіша — 1 зл., М. Цэяргача — 2 зл., Яз. Капяцы—2 зл.; праз кал. Б. Кіту—ад П. Скрэбеца — 5 зл., А. Данілевіча —5 л., прот. Бабкоўскага — 5 зл., А. Шумскага — 1 зл., М. Чатырко — 3 зл., Я. Ціхаяоўскага 5 зл., З. Барановіч — 3 зл., іншых асоб — 3 зл.; праз пасла Стэповіча—ад сэн. Рагулі — 5 зл.; поштай: ад Я. Гапановіча — 12 зл. (Вам усе патрэбныя нумары „Студ. Дум.“ перасылаем разам з гэтым); праз кал. Я. Шутовіча—ад пасла П. Карузы—10 зл., пасла А. Стэповіча—5 зл., Я. Красоўскага—2 зл., М. Дварэцкага — 2 зл., ад кс. Бакіноўскага— 5 зл., кс. П. Татарыновіча—4,40 зл.; праз кал. Маргаліпчанку — ад Б. Ігн.—5 зл., В. Гур. — 1 зл., Алехновіча—1 зл., І. Мурзы—1 зл., Кухарэўскай—1 зл., Непартовіча—3 зл., І. Карс.—1,50 зл., Н. Шчэнсновіч—1 зл., Жэлезы — 1 зл., іншых асоб—5 зл.; праз кал. А. Карнюка—ад А. Велікасельца—1 зл., Я. Кліма — 0,55 зл. Усяго атрымана 139,45 зл.

Усім ахвярадаўцам выдавецтва „Ст. Думкі“ складае шчырую падзяку.

# Студэнская Думка

Грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь Беларускага Студэнства.

Адрас рэдакцыі: Вільня, сьв. Анны 2.

Падпіска квартальна з перасылкай 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . 1 зл.

№ 1 (11) | 20. III. 29. | ГОД V.

*
* *

*У праменьнях сонца,*
*У проблесках блакіту*
*Прыйшла яна.*
*Пушыстая,*
*Як аксаміт,*
*Бурлівая,*
*Як віхар дзікі,—*
*Прыйшла вясна.*
*Разчэша вецер ёй касу з туманаў*
*І галаву ёй ў краскі прыбярэ*
*Ей гімны поле засьпявае.*
*І тае сьнег,*
*І ручаі сьпяваюць —*
*Прывет вясьне!*

*А. Б.*

# Угодкі.

З году ў год і так ад 25. III. 1918 г. 11-ты ўжо раз, мы, Беларусы, сьвяткуем ўгодкі свае Незалежнасьці, да якой толькі йшчэ ймкнемся. Зьдзейсьненьне гэтага ідэалу залежа перадусім ад таго, ці мы, моладзь, асабліва моладзь акадэмічная, у яго верым, бо вера ў ідэал—гэта найпэўнейшая аснова, на якой толькі можна будаваць усякія пачынаньні на большую, дальшую мэту.

У што аднак у сяньняшнюю пару агульнага зьняверанься можа студэнт-акадэмік яшчэ верыць?—Шчыра прызнайма, што такіх пунктаў апоры асталося ўжо ня шмат. Не разьбірайма тут, чыя ў гэтым віна. Зазначма толькі, што на долю беларускай акадэмічнай моладзі прыпадае:

1. Устрымаць абясцэніваньне духовых вартасьцяў.
2. Утрымаць і далей культываваць захаваўшыяся вартасьці.
3. Здабываць новыя вартасьці.

Значэньне і патрэба першых двух пунктаў — лішне ясныя, каб аб іх трэба было йшче тут нешта гаварыць. Інакш да пэўнай меры стаіць справа з пунктам трэцім і апошнім — *здабываньнем новых вартасьцяў*.

Калі верыць, што адраджэньне ўсіх народаў мела якую небудзь рацыю, апраўдываючую істнаваньне гэных народаў — як такіх—дык гэта рацыя ў пераважываючай меры ляжала і бязупынна ляжыць у тым, што новаадрадзіўшыяся народы ўнясуць у агульна людзкую скарбніцу больш, чым уносілі туды перад сваім адраджэньнем. Для поўнасьці зразуменьня справы тут-жа трэба дадаць, што адраджэньне народу, як пэўны крызыс, хоць можа, аднак не павінна ў першы ўжо час выклікаць відавочныя доказы, апраўдываючыя істнаваньне таго ці іншага народу: аб гэтым сказаць можа сваё апошняе слова толькі перагляд з даўжэйшага часу. Што гэта так, даказвае стала ўзрастаючы дабрабыт тых народаў, якія ў сусветнай вайне здабылі сваю незалежнасьць.

Беларусы, ад часу першых пачаткаў дробнай адраджэнскай працы, зрабілі ўжо для агулу людзкасьці шмат. Няма ўжо бадай ніводнай галіны людзкай дзейнасьці, гдзе-б Беларусы, як такія, самі ці ў коопэрацыі з блізкімі сабе народамі, не дапоўнілі гэту дзейнасьць пэннымі ўспамогамі, якія

на міжнародным грунце прызнаюцца па заслузе. Доказам гэтага ёсьць стала ўзрастаючы лік міжнародных інстытуцыяў запрашываючых Беларусаў да супрацоўніцтва. І з цэлай пэўнасьцю сказаць можна ўжо сяньня, што недалёкі той час, калі ніводны пачын міжнароднага характару бяз волі і згоды Беларусаў будзе сусім немагчымым. Не залежа ад таго, ці гэта мае каму падабацца, ці не. Няма й ніколі ня будзе такой сілы, якая-б здолела ход жыцьця ня толькі павярнуць, але хоць-бы толькі стрымаць: Беларусы па сяньняшні дзень дапрацаваліся так далёка, што за іх працуе час, працуе жыцьцё.

Усё гэта аднак ня можа нікога ўзводзіць на думку, што час і жыцьцё самі ўжо вывядуць Беларусь на роўны шлях Незалежнасьці. О, не! Ніколі! І час і жыцьцё—гэта толькі вольныя, так сказаць «дзікія» сілы, якія могуць так добра працаваць «за,» як і «проціў». Усё залежа ад таго; як і хто здолее іх апанаваць, акялзаць. На вялікі жаль, ня шмат да гэтага паклікана людзей; асабліва сяньня, у часы агульнага духовага адпружаньня, якое спракон вякоў заўсёды было прадвесьнікам ня ўзросту, а нямінуючай загубы: спачатку моральнай, а пасьля і матэрыяльнай. Так было ад найстарэйшых часоў, калі тоўпы народу ў старапаганскім Рыме жадалі толькі **panem et circenses!** — хлеба і гульняў,—так дзеіцца і да нашых дзён. Гэты згубаносны кліч разваліў такога волата гісторыі, як рымскае цэзарства, гэты кліч, ад таго часу й да нашых дзён, разгрызае, як заразная чэрваточына, здаровыя й багатыя калісьці, але сягоньня ўжо над гробам уласным стоячыя дзяржавы і дзяржаўныя сувязі. Што будзе далей, ніхто згадаць ня можа. Пэўным толькі ёсьць гэтулькі, што успомненае духова—моральнае адпружаньне, ужо загубіўшае і ўсьцяж толькі губячае цэлыя гэтак сільныя раней народы, ня можа быць да будаваньня нечага вялікага прыгодным.

Мы, Беларусы, сяньня йшчэ толькі праектуем будыніну свае Незалежнасьці і няўмелыя былі-б з нас будаўнікі, калі-б у аснову свае будыніны клалі хваравіты, расточаны матэрыял.

Шчыра прызнайма — у гэтым ёсьць значэньне сьвяткаваньня угодкаў,—што здаровага матэрыялу на збыт ня маемо сяньня: *захавайма-ж яго!* А далей: «старога—кажуць—лапата

ўжо направіць», але мы, моладзь, пры добрай волі паграпіць яшчэ *можам* не з аднэй нядугі *вылячыцца* і стацца матэрыялам добрым а нават першарадным. У гэтым наша вялікае пасланьне, апраўдаць якое—паўтараем—можам, калі на гэта будзем мець *добрую волю.*

Гэта напружаньне духовых і моральных сіл народу ставім сабе як чародную задачу на 12-ты год усенароднай працы над зьдзейсьненьнем ідэалу з 25. III. 1918 г. За працу гэту бярэмся з тым большай сілай і верай, што леташнюю акцыю нашу над беларускім усенародным зьліжэньнем бачым і калі не цалком, то-ж у пераважнай частцы ўдаўшайся. Беларускае грамадзянства зразумела і па заслузе ацаніла нашы дагэтулешнія імкненьні. Мы за гэта ўдзячны яму і рады будзем, калі і надалей знойдзем у яго зразуменьне і послух для агульнай нацыянальнай нашай справы.

Вера ў свой сьмелы пачын дадае нам надзеі, што ў здабываньні новых уселюдзкіх вартасьцяў, напружаньнем духова-моральных сваіх сіл, яшчэ раз пераканаем людзкасьць, як цэннай і неабходнай для яе ёсьць *Вольная і Незалежная Беларусь.*

---

**Інж. А. Клімовіч.**

# Студэнскім шляхам.

(*Рэфэрат, прачытаны 17-11-29 у Бел. студ. саюзе*)

Гаворыцца сяньня шмат аб крызысе інтэлігэнцыі. Раз з большым, іншы раз з меншым правам. Што такое ёсьць ўрэшце сам крызыс? Др. Зайпэль крызысам называе такі стан людзкога духа, калі губляецца для яго пуцяводная зорка, для каторай жыве, працуе, да каторай усей сваей сутнасьцю ймкнецца.

Ці-ж так ёсьць сяньня з студэнствам беларускім? Ці-ж яно гэту зорку пуцяводную сапраўды згубіла? Верыць-бы ў гэта не хацелася. Але чым-жа тады вытлумачыць тую душэўную стагнацыю, якой у большасьці прынамся сяньняшняга беларускага студэнства ніхто бадай не запярэча? Гдзе прычына гэтае стагнацыі? Асабіста меў-бы нахіл шукаць прычын ейных ў здэзорыентаваньні, настаўшым пасьля адплыву фаляў пасьляваеннага радыкалізму. Перш найперш у адзінак „найлягчэйшых", ці можа найслабейшых, каторых радыкальны ўздым вынес проста сваей толькі стыхійнасьцю. У меру таго, як воды радыкальнага ўздыму адплывалі, — аднасілі з сабой і ўсё „лёгкае", слабое, сэзоннае. Адных зразу-ж, як толькі мяняўся „вецер", другіх пазьней, а адзінкі што лепей „плываюць" дахаваліся на па-

верхні да нашых яшчэ дзён і гэтыя „плывакі“ найбольш робяць крыку. Гэта адна катэгорыя „валячыхся мэтэораў“. Іншую групу можна было-б схарактэрызаваць расейскім сказам: „раб кончил своё дело, раб может отойти“. І такія ёсьць І шмат-шмат яшчэ іншых. Усе яны ўводзяць дэзорыентацыю моладзі. Перадусім сярод тых, што рахавалі на хуткую і лёгкую кар'еру. А рэшта, ня маючы жыцьцёвага яшчэ досьледу і пры найлепшай хоць-бы волі, сваймі сіламі да мэты дайсьці не патрапілі, хоць-бы мэту гэту і бачылі. Словам, для шмат каго згубілася ня мэта, а шляхі да яе.

**Гдзе-ж шлях беларускага студэнта?** Адказ просты: **у народ ды з народам.** Студэнства ў краі хіба ніколі не дацэне таго, што знача для чалавека і наагул для жывога твору родны субстрат. А знача ён шмат. І тая слаўная Міцкевічаўская інвокацыя да бацькаўшчыны, якой пачынаецца першая кніга „Пана Тадэуша“, зьяўляецца ня толькі поэтычным вытварам духа, але й цьвёрдай рэальнасьцю. Ісьці ў народ! Сяньня, праўда, далёка ўжо за сабой маемо тыя часы романтычнага „хаджэньня ў народ“. Але і сягоньня, як калісьці, народ патрабуе сьветлых праваднікоў. Калі-ж сям-то-там здарыцца нейкае на гэтым грунце непаразуменьне, дык віна тут не народу, як такога, а тых нясумленных „сьветачоў“, што даверра народу ня раз і ня два надужылі.

Калісьці студэнства арганізавала сялянства, работнікаў ды рамесьнікаў: ці-ж і гэта сяньня мелася-б называцца непатрэбным „романтызмам“?

Выходзячы з тае-ж прадпасылкі, што шлях белар. студ-ва вядзе „праз народ ды з народам“, студэнства наша мусіць заняць адпаведнае становішча да **дэмократыі**. Масарык сказаў нядаўна, што „дэмократыя—гэта дыскусія“. Нашы блізкія суседзі ўжо даўно паставілі над дэмократыяй знак пытаньня, а хто ведае, ці сусім не паставяць і крыжык?! А што-ж мы, Беларусы? Мы ў тэй перад усімі выгадзе, што на'т дыскутаваць на гэту тэму ня маем найменшае патрэбы. **У дэмократыі толькі наша будучыня.** Але мусім сабе ясна здаць справу з таго, **што такое дэмократыя ёсьць?** Вось-жа **дэмократыя ёсьць грамадзкай даспеласьцю да ўсенароднага супрацоўніцтва.** Так дэфінуе дэмократыю праф. Др. М. Годжа, філёзаф, родам Славак, ён-жа і сучасны чэхаслаўацкі міністар Асьветы. Няма хіба ніякае патрэбы, каб і мы Беларусы шукалі іншай, як гэта, дэфініцыі.

Два мамэнты з гэтай дэфініцыі заслугоўваюць на асаблівую ўвагу. Дэмократыя—дасьпеласьць; гэта знача, што да дэмократычнага ладу трэба ўзгадаваньня, трэба „сьпяленьня“. Дэмократыя ня ёсьць нечым сырым, яна ёсьць найсьпялейшым, найвышэйшым шчаблём грамадзкага ладу, і той, хто дэмократыі зракаецца, хто яе ня чуе, дрэнна сьведча аб грамадзкай сьпеласьці свайго народу. Згэтуль выснавак: перш, чымся да дэмократыі парывацца, трэба народ свой да яе выхаваць.

Дальшым пунктам вартым увагі ў названай дэфініцыі ёсьць, што „дэмократыя ёсьць грамадзкай дасьпеласьцю да **ўсенароднага** супра-

цоўніцтва". Да ўсенароднага, а ня нейкай толькі клясы народу, як паны, салдаты, работнікі і г. д. Усё гэта таму, што народ тады толькі будзе здарова разьвівацца, калі добра разьвіваецца кожная з ягоных складовых частак. Таму ў імя дэмакрацыі трэба даць магчымасьць жыць ня толькі бяднейшаму, але і багацейшаму, з тым толькі, каб багаты ня жыў коштам беднага, каб й багаты і бедны былі роўны перад законам.

Гаворачы аб дэмакрацыі, нельга абмінуць пытаньня палітыкі ў студэнства. Розныя капацыты розна на гэта пытаньне заглядаюцца. Большасьць клоніцца да таго, што першай задачай студэнта ёсьць навука. І калі нават на гэта згадзіцца, дык нельга йшчэ гэтым самым цьвердзіць, што студэнт мае быць толькі студэнтам,—бо ён мусіць быць яшчэ і грамадзянінам, г. зн. поўнапраўным сябрам грамадзянства. А калі так, дык дзе-ж граніца паміж студэнтам, як такім, і паміж студэнтам — грамадзянінам, для якога асновы палітыкі ня могуць быць нязнанымі. Урэшце асабісты погляд на гэта пытаньне доўга йшчэ хіба будзе для кожнага дамінуючым. Як Беларус толькі мусіў-бы кожны кіравацца адным палітычным прынцыпам: для кожнага беларускасьць мусіла-б быць сымболем нечага вышэйшага, ідэальнага, што нічым і ніколі ня сьмее быць сплямлена. Выглядае гэта, праўда, на сяньняшняе абгрублае, тоўстаскурае разуменьне жыцьцёвых пытаньняў, сказаў-бы даруйце, —неяк „падзявочаму". Але трудная рада. Зьвярнемо толькі ўвагу на тое, куды мы йдзем і колькі йшчэ дарогі перад намі, а пазнаем, што высказаная тэза ня ёсьць нічым няжыцьцёвым. Ідзем у народ, хочам сыскаць сабе масы, а дзе-ж яны? Ня будзем іх мець перш, чымся быць Беларусам, ня станецца ў масавай псыхолёгіі народу нечым модным, ганаровым, шляхотным. Але перад гэтым мусяць наскрозь быць шляхотнымі і чыстымі тыя, што Народ сыскаць сабе хочаць! Дэмагогіяй патрапіць, праўда, йшчэ не адзін абтуманіць галаву цёмнаму селяніну, работніку, але гэта палка з двумя канцамі. Трывалкія пазыцыі ў народных гушчах можна збудаваць толькі дробнай сыстэматычнай, а перадусім чэснай і вытрывалай працай. Да ўсяго гэтага, ясна, ня здольны ані „крыткі з профэсіі", ані вечна „ўрадуючае" толькі мяшчанства. Небясьпечны таксама і ліхія кар'ерысты. Тут трэба людзей целам і душой ахвярных, чэсных.

Але вернемся да жыцьця студэнскага. Астаецца сказаць яшчэ пара слоў аб жыцьці арганізацыйным. Не зачыняючы вачэй перад сапраўднасьцю, прызнаць трэба, што арганізацыйнае жыцьцё беларускае бедна ня толькі ў гушчах народных, але і сярод студэнства. Першая прычына гэтага — адсутнасьць, або можа нязнаньне традыцыі. А далей — адсутнасьць прыкладу, які-б можна было насьлядаваць. Усё гэта трэба будаваць ад асноў. І тут, як у народнай гушчы, не настаў яшчэ той пераломавы мамэнт, калі належаньне да беларускіх студэнскіх арганізацый станецца спачатку модным а пасьля і неабходным. Дзеіцца йшчэ часта наадварот. Шлях да направы тойсамы, як і пры арганізаваньні народных гушчаў. Для ўсяго гэтага трэба, каб у арганізацыі ня толькі „ўрадавалася", але каб там

і сапраўды працавалася, ня толькі ў прэзыдыюме, але і скрозь. Толькі гэткае жыцьцё можа імпанаваць для пастаронных і прыцягаваць іх да супрацоўніцтва.

Практычна: на колькі далося пазнаць, студэнства наша не дацэньвае значэньня ўласнага гнязда, уласнага лёкалю, які ў жыцьці студэнства іншых народаў ёсьць жыва фрэквэнтаваны. Стуль у яго і жывое супрацоўніцтва. Няма у нас в. карыснае і практычнае інстытуцыі „свае пошты". Больш з інэрцыі, як з сапраўднасьці наракаецца ў нас на недастаткі матэрыяльныя і гэтым матывуецца няплачаньне мінімальных сяброўскіх складак, якія, пры мійсцы кажучы, для арганізацыі маюць значэньне ня толькі матэрыяльнае, алей маральнае. Наш чалавек заплаціўшы некуды свой грош, цікавіцца, што з гэтым грашом дзеіцца і тымсамым прыцягваецца ў круг інтарэсаў арганізацыі. А гэтага-ж толькі і трэба, каб жыцьцё ў арганізацыі не застоівалася.

Не нармальна ў нас і тое зьявішча, што абсольвэнты высокіх школ і адначасна сябры студэнскіх арганізацыяў, па сканчэньні школы—жыцьцём свае арганізацыі больш ня цікавяцца, сусём ад яе адходзяць. Таму неабходным ёсьць групаваньне беларускіх абсольвэнтаў у сэніорат студэнства, які меў-бы ўдзячную ролю, а нават абавязак, паводле магчымасьці ўспамагчы як студэнскую арганізацыю, так і паасобных дзейных сяброў ейных, маральна і матэрыяльна.

Рэдагуецца і выдаецца друкаваны орган беларускага студэнства—„Студэнская Думка". Няхай кожны сабе дасьць адказ, колькі ён памог на гэты шляхотны парыў ахвярнасьці адзінак? Ня кожнаму дана ўладаць, як кажуць, пяром. Кожны сьвядомы беларускі студэнт мае аднак магчымасьць быць перадусім падпішчыкам і кольпортэрам свайго выдавецтва. У нас Беларусаў неяк дзеіцца йнакш: купіць газэту чужую, але сваю—дык абавязкава хоча мець дарма. Направу мусілі-б пачаць студэнты. Каб кожны сябра студэнскай арганізацыі сапраўды быў падпішчыкам свае часопісі, трэба падпіску браць зразу-з упісовымі, эвэнтуальна сяброўскімі месячнымі, ці йнакш тэрміновымі складкамі. Часопісь-жа самую кожны сябра дастае ад функцыянара управы арганізацыйнай. Кожны сябра падпісную складку на адзін экзэмпляр часопісі заплаціць мусіць! Кольпортаж сяброў праўна не забавязывае, але маральна кожнаму павінна залежаць на тым, каб думкі арганізаванага студэнства знаходзілі як найшырэйшы послух. Асабліва-ж у віленскіх варунках, дзе гэтулькі ходзіць яшчэ несьвядомых, ці толькі нездэцыдаваных пупіляў Баторага.

Гэтулькі аб арганізацыйных плянах і пажаданьнях. Але—лёгка пляны будаваць, яшчэ лягчэй працу крытыкаваць, ды найцяжэй працаваць. Усё гэта праўда. Аднак праўда і тое, што ў ніводнай сапраўды беларускай арганізацыі сяньня лепш ня дзеіцца. Затое тымбольшая заслуга тых, хто і пры гэтых ліхіх абставінах у нас працу вясьці і працай кіраваць патрапяць. Бо ня штука ўрэшце працаваць, калі перад працуючымі, як кажуць, покатам дарожка. Пры такіх

абставінах патрапіць іськці наперад і абыхто. Ад моладзі, а асабліва ад моладзі акадэмічнай, маецца права вымагаць нечага больш.

Урэшце—задача студэнства сягае далей. Заслугай старшага пакаленьня ёсьць, што цэлы сьвет сяньняшні аб Беларусі ўжо знае, раз больш, раз менш. Задачай моладзі акадэмічнай ёсьць, каб весткі аб Беларусі ў чужыне шырыліся ўглыб; задачай моладзі акадэмічнай ёсьць пераканаць людзтва, што уваскрэшаньне Беларусі—гэта conditio sine qua non усесьветнай роўнавагі, усесьветнага дабрабыту.

У народ ды з народам у сьвет: тудою йсьці — студэнскім шляхам.

*І. СЛАНЕЎСКІ.*

**Вольная трыбуна.**

# Аб гістарычных імёнах Беларусаў.

У апошнія часы ў беларускай палітыцы і публіцыстыцы быў падняты спор адносна імёнаў „**Крывіч**“ і „**Беларус**“, які перанёсься на поле гісторыі і навуковых досьледаў. Запраўды, Беларусы маюць тры гістарычныя імёны: першапачаткавае „Крывічы“, якім яны называлі сябе і пад якім былі вядомы ў гісторыі чужынцам, „ліцьвіны“—пад якім былі вядомыя па сваей дзяржаўнай прыналежнасьці да Літоўска - „Рускага“ гаспадарства і „Рускі“ па веравызнаньню, якое было пануючае, калі сучасныя Беларусы ўваходзілі ў склад Літоўскага гаспадарства і былі пераважаючым элемэнтам у ўнутраным жыцьці дзяржавы. Апошняе навейшае імя „Беларусы“ дана расейскаю дзяржаваю, калі гістарычныя крывічы падпалі пад уладу Масковіі. Ніжэй паданая жменя фактаў ілюструе, як і калі называліся Беларусы. Імя „**Крывічы**“, як назоў тэрыторыі і народу, выступае ў першым гістарычным пісаным помніку ўсходняе славяншчыны, гэта „**Ў рускім пачаткавым летапісе**“, які ўказвае, што гарады Смаленск і Полацак і тэрыторыя пачаткаў рэк Дняпра і Волгі заселена Крывічамі і што яны незалежны, не падпарадкаваны роду Рурыкаў (першыя рускія князі). Імя „**Крывічы**“ і тэрыторыя былі вядомы і нямецкім гісторыкам. Гэтак хронікер Дусбург (Dusburg, capit 315) пад 1314 годам зазначае: „Frater Henricus Marchalcus—venit ad terram Crivitae, et civitatem illam que parva Nogardia dicitur cepit“. Знача: „Брат Гэнрык Маршалак прышоў у зямлю Крывіцкія і места яе, каторае Навагорадкам завецца, здабыў“. Імя „Крывічы“ было ведама ў Італіі. У жыцьцяпісе сьвятое Параскевы (Paraxedis) князеўна Полацкая названа: „Regina Crivitae“ = каралеўна крывічоў. (Kazanie na pogrzeb Maryanny Korsakównej. Lublin 1687, b.II.49). Па гістарычным даным тэрыторыю крывічоў абазначаюць па верхнім Немане, Дзьвіне, Дняпру і верхняй Волзе, крыўскімі гарадамі называюць Смаленск, Полацак, Ізбарск, Менск, Наваградак. Ізбарск і Смаленск ў X стагодзьдзі былі заваяваны Норманамі, якія называліся крывічамі—„Русь“, імем, узятым з фінскае мовы. Чужынцы-заваёўнікі пачалі тады ўжываць імя „русь“ дзеля назвы заваяваных імі плямёнаў, пераносячы гэ-

тае імя часткова і на забраныя крыўскія землі. Імя „русь“ асабліва пашырылася ў X—XI стагодзьдзі, калі пачалі заводзіць хрысьціянства якое было верай пануючых сфэраў і гарадзкога насяленьня, знача пераважна тых самых „Варагаў-Русі“, а яны былі валадарамі. Заваяваная маса славянская (часткова і крывіцкая) была паганскаю, а калі і яна прыняла хрысьціянства, то і стала называцца па веры „рускаю“. „У Варагаў — Русі“ прынцып народнасьці быў падменены прынцыпам праваславія і вараскае ўлады, адно і другое выражалася ў імені „Русь“. Таму даволі рана праз хрысьціянства гэтае імя пачало прыліпаць і да крывічоў, незаваяваных варагамі (крывічоў полацкіх).

У XIII ст. крыўскія землі апынуліся пад уладаю Літоўскае дынастыі. Тады нашы продкі імёны „Літва“, „Ліцьвін“ прынялі як тэрмін абазначэньня дзяржаўнай прыналежнасьці. Кожны крывіч быў крывічом, як і называў сябе, але „ліцьвіном“ быў па дзяржаўнай прыналежнасьці, „рускі“ быў па рэлігіі. Разумелі так тэрмін „русь“ і вял. князі літоўскія і пісьменьнікі ўключна з Фр. Скарынаю (гл. Первольф, славяне, т. III. ч. II. Гвагнін, італьянец, гісторык і географ Вял. княз. Літоўскага XVI ст., гаворыць аб Вільні і ўказвае на сьвятыні рымскай і рускай веры. Гэта пацьвярджае, што імя „Русь“ было тое самае, што і руская вера; насяленьне называлася рускім не па нацыянальнасьці, але па веравызнаньню (гл. „Kroniku“, надрукаваную па лацінску ў 1578 г., а пераведзеную на польскую мову ў 1611 г.)

З назову „русь“, пад уплывам бізантыйскага канцэлярскага стылю, вытварыліся назовы: „**Белая Русь**“, „**Чорная Русь,**“ **Вялікая і Малая**“ (гл. Первольф: Archiv fur slav. Philologie). Назоў „**Белая Русь**“ найраней выступае ў прускіх Немцаў і азначаў „**Русь Маскоўскую.**“ Гэты прыклад, як тэрмін географічны, відаць на картах географічных кардынала Кузенаі 1460 г. і італьянскага географа Якуба Гастальдзі 1548 Гастальдз пасунуў гэты назоў далёка на поўнач да Халмагораў. (Гл. Курс белорусоведенія, Москва 1918-20, стр. 95—96, проф. Анучин). Масковія пасьля перамогі над татарамі 1380 г. перастала называць сябе **Чорнаю** (падняволенаю) **Русью, а Белаю**, як свабодная. Гэты назоў за Масковіяй і астаўся-б, каб не падзеі жаніцьбы Івана III з грэцкаю царэўнаю Софіяю Палеолог. Калі Візантыя падпала пад уладу Туркаў, Іван III стаўся незалежным праваслаўным манархам, спадкаберцам Візантыйскіх імпэратараў. Каб апраўдаць гэты тытул, Грэкі падсоўваюць яму думку абяднаньня ўсходне-славянскіх аднаверцаў пад сваей уладай, у чым канстанцінопальскі патрыарх абяцаўся памагчы „Трэцяму Рыму (Маскве).

З гэтаю мэтаю дзеляць „Русь“ на царкоўныя правінцыі ў XVI ст. і як вынік гэтага зьяўляецца царкоўна-адміністрацыйная тэрміналёгія: „**Русь Вялікая**“ (Масковія), „**Русь Малая**“ (Украіна) і „**Русь Белая**“ (Крыўскія землі, якія ўваходзілі ў склад Вял. кн. Літоўскага.)

Такім чынам назоў „Белая Русь“, належачы з пачатку толькі Масковіі, перайшоў царкоўна-адміністрацыйным парадкам на крыўскія землі і абазначаў толькі землі да рэк Дзьвіны і Бярэзіны, уклю-

чаючы і Полацак. Масква пры гэтым пісьменную мову крыўскую стала называць беларускаю. (Гл. Первольф, Славяне т. III, ч. II, стр. 168).

Гэтыя назовы былі вядомы толькі Маскве, да другіх краёў яны даходзілі няяснаю легэндаю.

Першы раз стара-крыўская мова была названа беларускаю ў кнізе „Kazanie św. Cyrylla, patryarchy Jerozolimskiego" (1596). У прадмове да гэтае кнігі аўтар, Сьцяпан Зызані, зазначае, што тое самае (kazanie) ён выдаў і ў мове „białoruskiej." Ясна, што карыстаўся маскоўскім адміністрацыйным тэрмінам.

Бяручы яшчэ пад увагу, што браты Зызаніі былі барацьбітамі за праваслаўе і цесна былі зьвязаны з Маскоўскім патрыярхатам, сказанае вышэй балей пацьвярджае. Акрамя гэтага адзіночнага выпадку ў краёвай пісьменнасьці не сустракаецца тэрмін „Белая Русь" да другой палавіны XVII ст. Лаўрын Зызані стара-крыўскую мову называе „літоўскаю"; гэтак называе ў сваім слоўніку Панва Бэрында 1653 г.

Царкоўна адміністрацыйны тэрмін „Белая Русь" за Аляксея Міхайлавіча (1645-76) пасьля Андрусаўскага міру пачынае правікаць на захад ад граніцы Маскоўска-Літоўскай. У 1772-1796 гадох усходня-крыўскія землі былі далучаны да Расейскае імпэры і імпэратрыца Кацярына, актам 6 лютага 1774 г., першы раз надала крыўскім зямлям дзяржаўна-адміністрацыйны назоў „Белае Расеі." Такім чынам зьявілася ў канцы XVIII ст. на сьвет дзяржаўна-адміністрацыйная адзінка „Беларусь" у складзе Расейскае імпэры, якая была магілаю даўнейшых крывіцкіх княстваў Полацкага, Смаленскага і іншых.

Пасьля падзелу Польшчы 1772 г., у ва ўсей Эўропе ўзрасло зацікаўленьне яе гісторыяй, а асабліва гісторыяй крыўскіх зямель, далучаных да Расеі пад іменем Літвы. Грунтоўны досьлед зрабіў у канцы XVIII ст. англійскі гісторык Ватсон, які давёў, што славянская часьць Літвы неправідлова называецца „Літвою" ці „Русью", а што запраўдным іменем славянскае народнасьці там жывучае ёсьць Крывічы. (гл. W. S. Majewski, O sławianach i ich pobratymcach, cz. I, obejmująca rosprawy o języku sanskryckim, tudzież o literaturze Indjan, Warszawa, 1816; Teka Wileńska, 1857, Nr 1 str. 225).

Імпэратрыца Кацярына II пакінула ў далучаных крыўскіх землях польскім паном і шляхце правы над Крыўскім народам. Як адзіная інтэлігенцыя ў краі, з якой рэкрутавалася і чыноўніцтва, Палякі вытвараюць „беларускую" літэратуру на польскай мове, названую беларускаю па прыналежнасьці да тэрыторыі „беларускае" і мейсца выхаду кніг. Палякі і езуіты ўлілі ў „Беларусь" польскі зьмест. Было гэта лёгка зрабіць, хоць у істоце неправідлова, бо шырокія масы сялянства былі неасьвечаныя і падлягалі шляхце, паном, а апошнія рэпрэзэнтавалі край перад дзяржаваю.

1831 г. выбухла польская рэвалюцыя. Рускія (Маскалі) ўбачылі, што Палякі робяць „Беларусь" аб'ектам сваіх прэтэнсіяў. Ні адны, ні другія не прызнавалі і цені самастойнасьці за гэтым „простым"

крыўскім народам. Аб „Беларусі“ ставілася пытаньне: Польшча гэта ці Расея? у гэтай спрэчцы Палякі мелі моцны аргумант у вытвараный імі „беларускай“ пісьменнасьці, чаго ў расейцаў ня было.

Пасьля гэтага, каб Палякі ня мелі прэтэнсіяў на Беларусь, цар Мікалай I перайменаваў край у Западную Расею. Але аб рускасьці беларускіх (крыўскіх) зямель расейскі ўрад ня меў пэўнасьці і гэтага краю ня знаў. Была распачата праца па дасьледаваньню „Западнарускага краю“. Праца была даручана навукова-дзяржаўным установам: **Расейскаму географічнаму таварыству, Статыстычнаму Камітэту** і **расейскаму генаральнаму штабу.** Першым прыступіла да працы географічнае таварыства. Сабраныя матэр'ялы былі друкаваны ў „этнаграфічных зборніках“ гэтага таварыства (1853-1864) пад рэдакцыяй Кавеліна. Сучасная беларуская мова названа „тамошней“. У трэцім зборніку надрукаваны слоўнік „беларуска-крывічанскага“ яз. (стр. 198 201) і сабраньне крывічанскіх песьняў (стр. 201-276). У 1857 г. вышла гісторыя Беларусі Турчыновіча. Турчыновіч, побач з назовам „Беларусы“, ужывае назоў „Крывічы“. Генарал-маёр Бэз-Карніловіч у сваей працы: „**Историческия сведения о примечательнейших местах в Белоруссии**“ проста называе:“ **народ крывічанскі займае ўсю Вітэбскую губ., паўднёвую часьць Пскоўскае**“ і г. д. Дэпартамант гэнаральнага штабу таксама распачаў працу ў 1857, 58, 59 гадох і гэтак сама найшоў на Беларусі Крывічоў. Асабліва ясна падкрэсьлена крывіцкая народнасьць у саліднай працы штабс-капітана Карэвы (гл. **Материалы для географии и статистики России**, собранныя офицерами генеральнаго штаба. Виленская губ. составил генеральнаго штаба капитан А. Корева. С. П. Б., 1861, VIII, IV; 804 стр). Другім выданьнем было апісаньне Гродзенскае губ. Матэрыялы былі састаўлены П. Баброўскім у 2- часьцінах. І Баброўскі тлумачыць, што Беларусы ёсьць патомкі крывічоў. Статыстычны камітэт распачаў свае працы ў 1855 годзе і вёў да 1860 г. Паводле яго афіцыяльнае статыстыкі ў 1860 г. 26106 душ лічыла сябе Крывічамі. Народ помніў яшчэ сваё старое імя, хаця быў не асьвечаны.

Пад уплывам паўстаньня 1863 г. у Маскве і Пецярбурзе спалохаліся сваіх досьледаў, спалохаліся Крывічанскасьці насяленьня. Усё началося русыфікавацца. Пачаўшаеся беларускае адраджэньне падведзена было пад рубрыку польскае інтрыгі. У паходзе супроць беларускасьці (крывіцкасьці) прыймала удзел ўсё расейскае грамадзянства, як лібэралы так і рэакцыйныя кругі, на чале з славянафіламі (Аксаков). Усе напіралі на абрусеньне беларускіх зямель. Быў праект пасылаць на Беларусь рускіх нявяк (у газэце „Дни“). Замест Крывічы быў афіцыяльна ўведзены назоў Беларусы. Усіх праваслаўных залічым „рускімі“, каталікоў „палякамі“ (праект Экерта). Абрусіцельства краю, пачаўшаеся з 1860 г., выцісьнула назоў „Крывічы“.

Імя „Крывічы“ для акрэсьленьня беларускага народу нясьмела паяўляецца сярод адраджэнцаў-пісьменьнікаў якраз у той час, калі руская рэакцыя наймацней старалася вытравіць і цень імені ня толькі „Крывічы“, але і „Беларусы“, называючы ўсіх агульным іменем „рускія“. Трэба адцеміць безсэнсоўнасьць у выбары назоваў

паасобных краін расейскае імпэрыі: у Сібіры на далёкім усходзе назваў урад тэрыторыю, заселеную мангольскімі племеньнямі, „жоўтарасіяй“ (Желто-Россія).

З пісьменьнікаў, пачаўшых ужываць імя Крывічы, трэба адцеміць Чачота, Марцінкевіча, Каганца, Купалу, К. Буйло, Бядулю, Ластоўскага, Езавітава і друг.

Наш народ на працягу тысячалетняй гісторыі насіў імёны: Крывічы, Літвіны, Рускія і Беларусы. Першапачаткавым іменем было „Крывічы“, самым народам сабе дадзенае (Крывічы — родныя сабе па крыві, сваякі), рэшта былі намі ношаныя ў працягу гісторыі і нам даныя з боку. Так што сучасныя Беларусы мелі першапачаткавае імя „Крывічы“, па дзяржаўнай прыналежнасьці „Ліцьвіны“, па рэлігіі ў літоўскім гаспадарстве „Рускія“ (ня трэба зьмешваць з цяперашнімі Велікарусамі, Маскалямі) і сучаснае імя „Беларусы“, пад якім істнуем і вядзем свой рэнэсанс.

---

**В—іч.**

# Агляд творчасьці Міхася Чарота.

У мінулым (1928-мым) годзе адсьвяткавала беларускае грамадзянства дзесяцігодзьдзе літэратурнае працы пяўца Беларусі, паэты Міхася Чарота — і вось цікава было-бы для нас падрахаваць тое, што даў пясьняр за гэтыя дзесяць год для нашае літэратуры. Мы папрабуем зрабіць гэта не стараючыся адначасна рабіць глыбейшай аналізы творчасьці паэты, даючы гэты артыкул, як звычайную схэму, як спробу об'ектыўнага перагляду лепшых і буйнейшых твораў пісьменьніка.

І вось, дзеля гэтага я ня буду доўга застанаўлівацца над біографіяй паэты, прайду над ёй у пару славах.

Нарадзіўся Міхась Чарот 7-га лістапада 1896-га году ў в. Рудзенск на Чырвеншчыне. Запраўднае яго прозьвішча ёсьць Кудзелька. Паходзіў ён з малазямельнай сялянскай сям'і; пачаў сваю кар'еру, як можа і шмат хто з нас, ад пастушка, памагаючы свайму бацьку ў гаспадарцы. Асьвету пачынае атрымовываць ад так званага „дарэктара“ (якога мастацка малюе Якуб Колас у сваёй паэме „Новая Зямля“), далей Чарот уступае ў 2-клясовую народную школу. Скончыўшы яе пасьля кароткае падгатоўкі ў 1914 г. паступае ў настаўніцкую сэмінарыю ў Маладэчне, якую ў 1917 г. канчае, але заместа настаўніцкае працы трапляе ў часох „кераншчыны“ на фронт.

Вайсковае жыцьцё засасывае яго, але адначасна ў гэтым часе знаёміцца ён з нацыянальным рухам і бярэ ў ім чынны ўдзел. Пасьля доўгага бадзяньня па Украіне і Расеі паэт вяртаецца на Бацькаўшчыну і вось у 1918 годзе пачынае сваю літэратурную дзейнасьць друкам вершу пад назваю „Звон“.

Чарот—пявец новага жыцьця —вось як акрэсьлівае ён сам сябе:

„Я тужлівы Чарот, я мяцежны бунтар,
Я балота буджу гучным шумам,
У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,
Але змоўкнуць ня дам маім струнам.
Уздыму дух людзей, прабуджу іх ад сну, —
Славу будучнасьць я ім прарочу,
Я мяцежны бунтар, клічу жыцьця вясну,
Клічу к'працы свабоднай і творчай".

Аб дзе якіх бакох творчасьці Чарота існуюць паасобныя манаграфіі, напр.: „Матывы лірыкі М. Чарота" А. Бабарэкі, „Завіруха" — Піотуховіча і г. д., але яны далёка не абхопліваюць таго багатага ўкладу ў беларускую літэратуру, які зрабіў М. Чарот.—Чарот гэта паваротны пункт у гісторыі беларускай літэратуры ад старых матываў „адраджанізму" — да больш новых матываў аб'яднаньня тых, якіх лучыць мазольная праца — рабочых і сялян. Ён кажа:

„Я пяю, што пяе селянін.
А ты чуеш? іграе заводаў гудок,
Ў кузьні гучна зьвініць каваля малаток,
Пра адно мы пяем, як адзін".

Зачнем перагляд яго творчасьці з найболей можа апотэознага акорду яго творчае сымфоніі, з „Босых на вогнішчы", — так назваў гэтую паэму Жылуновіч. Паэма „Босыя на вогнішчы" належыць да другое фазы, другога этапу яго творчасьці. Першага этапу г. з. твораў зьмешчаных у зборніку „Завіруха" ,разглядаць ня будзем, бо там крысталізуецца толькі тая самая думка, якая прамігае ў „Босых на вогнішчы".

Гэтая паэма — пачатак новае беларускае паэзьі,—гэта песьня—гымн вялікім падзеям 1917-га году. З боку афармленьня і тэхнікі аўтар дасягнуў найвялікшае дасканаласьці; пісаная рознымі разьмерамі, паэма пераплецена ўдалым рытмаваньнем.

Паэма дае агляд перажываньняў і настрояў на Беларусі ў 1917 годзе, героямі яе зьяўляюцца, як і пераважна ў Чарота, „масы", у дадзеным выпадку „босыя". Агулам не ўдаючыся ў падрабязную аналізу значаньня „босых", зазначым, што ідэолёгія паэмы выражэна яскрава, што пры дасканалай конструкцыі абразоў, музыкальнасьці яе і эластычнасьці формы, яна пакідае на чытачу вялікае ўражаньне, даючы паняцьце аб псыхіцэ „масаў".

Праф. Ігнатоўскі кажа аб „Босых на вогнішчы: „...Ў гэтай паэме аўтар сканцэнтраваў, як у крыштале свае думкі і пачуцьці і яна яшчэ чакае свайго філёзофскага і мастацкага разгляду..." Гаворыць так-жа праф. Ігнатоўскі аб магчымым уплыве, а прынамсь сувязі гэтае паэмы з паэмамі А. Блёка „Скіфы" і „Дванаццаць", агулам праф. Ігнатоўскі ліча яе за вянок творчасьці М. Чарота.

Цяпер застановімся крыху на дробных вершах паэты друкаваных у 1922-23 годзе.

Гэтыя вершы б'юць струменям радаснага лірызму. Матывы іх — любаваньне прасторам, тэхніка надзвычайная, багата рассыпаючы фар-

бы, пераліваюцца словы, даючы суцэльныя абразы. Вось для прыкладу адзін з іх:

„Балотам сьнежным праз сасоньнік,
Які смалёвым пахам вабіць,
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць..
Пукаты стог люблю аб‘ехаць,
Сьляды наўкол зрабіць палозьзем
І сена выскубнуўшы вехаць,
Люблю раскінуць па дарозе“

Гэткае выпукленьне абразу рэдка дзе спаткаеш,—чытаючы так здаецца і лунаеш у сьнежных прасторах на лёгкіх саначках, — а якая мягкасьць у рытміцы! Вось другі абразок:

„Дзеці пальцамі шыбы вузорамі
Размалёўваюць тулячы плечы,
Згорнуць ў жменю сьняжыначак зоры
І бягуць пасмактаць у запеччы;
Ноччу печ засьпявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасьцелі ім сьніцца,
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле гуртам ловяць сініцу.“

Якая тут сакавітасьць у апісаньні! І няма суму, ні каплі суму, бо жыцьцё бадзёрае і суму ня любіць. Няма мінорных тонаў, льюцца мягкія калышучыя гукі, пераплецены мажорным акордам перамогі;

„Плывём к прыгожай сьветлай далі
На хвалях вогненага мора“.

Вера ў будучае, у яснае і сьветлае будучае б'е з кожнага радка; калі і закраўся дзе сум, дык гэта сум па „бяздоньню балот“, па страшнай цемры сялянства, але ўсьлед за сумнымі радкамі гучыць упэўненасьць, што праз „грукат машын“ мы праскочым „курган“.

Нават індустрыяльнае адраджэньне Беларусі малюе паэт прыгожаю казкаю, у якой:

„Змрокам ціхім сьпеў салаўіны,
Гай шапоча кустам альховым,
Ён прыехаў рыцар машыны
Кахацца з дзяўчынай вясковай“.

А вось:

„...Гудзе гудок, паўзуць машыны ў шыр і даль палёў, балот...
...імчыцца рацъ сталёвых коняў“.

Гэтыя вершы бухаюць агнём веры Прамэтэявай, — „брыльянты на вітрыне беларускае паэзіі“, як кажа Гартны.

Чарот верыць у маладую сілу, у сілу моладзі, ён сам малады і творчы:

„...Перастаў і сумны сьпеў гусьці,
Дні прыйшлі — ажно ня верыцца,
Хто-ж адвагі знойдзе, сьмеласьці
З сілай моладзі памерыцца“.

Чарот не захапіўся імажынізмам, ён не пагнаўся за вобразнасьцю ў сваіх добных вершах, але пакінуў вірующую паступовасьць і моладасьць на тле сымболізму, ці мо' лепш яшчэ алегарычнасьці, заховываючы агулам — суцэльнасьць.

Да буйнейшых твораў М. Чарота належыць паэма „Марына“, чацьвертая з ліку, і адразу сьледуючая за ёй паэма „Карчма“, якую мы разгледзім больш падрабязна, бо яна зьяўляецца для нас надта цікаваю. Чарот у гэтай паэме сплятае свае асабістыя перажываньні з грамадзкімі здарэньнямі, у той час, калі ў папярэдніх паэмах дае толькі магутныя абразы гераічнага парыяду. Гэтая паэма — ўспаміны паэта аб сваім прошлым, а прошлае заўсёды ўстае ў памяці такім мілым, а далёкім і ўспамінаць хочацца. Якраз гэта мае на ўвазе паэт, бо кажа ў ва ўступе:

„...Чамусьці ўспомнілася сёньня
Нашай вёскі старая карчма,
Каля вуліцы зломлены ганак,
Прызбы зрытыя, вокны бяз шыб,
Але там — ад рана да рана
Быў прастор для мужыцкай душы-
Пад страху абымшэлай дравіцы,
Абы золак з пасьцелі падняў,
Помню богу шкляному маліцца
Я з бацькам ішоў штодня...“

І сапраўды верш, рытміка, прыгатаўляе да слуханьня ўспамінаў аб жыцьці паэта, аб жыцьці вёск! Чарот не выпадкова бярэ за пэўны момант для творчасьці — старую карчму, у паэта з ёй шмат зьвязана. Карчма, да якой любіў заглядаць Чарот, дала можа шмат ад'ёмнага для песьняра, але наведываючы яе паэт яднаецца з сялянствам і вывучае яго псыхіку. У карчме Шлёмы знаёміцца Чарот і з жыцьцём Жыдоў на Беларусі, у карчме-ж перажывае ён першае каханьне да дачкі карчомшчыка — Рахілі; у карчме селянін шукаў спачынку, у карчме абгаварываў усе свае справы і знаёміўся з навінамі, у карчме жыў поэт адным жыцьцём з вёскаю і ўчуваўся ў яе настроі, але якраз падставаю наведываньня карчмы было яго каханьне, яно ўсхвалявала душу песьняра і ўзбагаціла яго пачуцьцё.

Паэт кажа:

„...Ў карчме піў атруту я чаркай,
Ў садку піў салодыч жыцьця.“

Гэты раман паэта пакінуў на ім пэўны сьлед. Цікавымі могуць быць для нас гутаркі паэты з карчмаром Шлёмаю, — яны:

„....Часта гаманілі да ночы.
Ну, чаму нешчасьлівы наш Край...“

Адказу на гэта не знайшоў паэт, а Шлёма шукаў яго ў талмудзе.

Вось наступае вайна, паэт прашчаецца з карчмой і ідзе ў войска. Надыходзе новае жыцьцё, Шлёма стараецца прывыкаць да яго. Час падыйшоў, карчма развалена, на яе месцы хутар, калышуцца залатыя калосься ўраджаю, „што мужыцкімі знойдзен плячамі“. Паэт вяртаецца на Бацькаўшчыну і вітае яе з вясною. Вітаньнем новага і вялікага канчаецца малюнак, багаты пераплётам нацыянальных і сацыяльных мамэнтаў, — цэлы скончаны абраз.

„Карчма“ не засмактала паэта, ён выбіўся з яе каб прычыніцца да вялікага будаўніцтва, каб стацца сейбітам „зерняў залатых“ на тым месцы, дзе змучачыя людзі маліліся „шкляному богу.“

Паэма з тэхнічнага боку бяз закідаў, верш эпічны, пасуючы да апавяданьня, да ўспамінаў прошлага.

А вось горды і сьмелы ўзмах пяра, вось абраз перамогі прыніжаных і пакрыўджаных — пераплёт гораду і вёскі, паэмы „Беларусь лапцюжная".

Горад дымны і вёску шэрані
Злучыць у адно — вышлі першымі.
Сьпевам, морам
Поля залілося.
Грукат фабрыкаў, рогат труб,
Сінь прастору
Шэпчацца калосьсем,
Вёска з горадам едуць шлюб браць."

Гэты шлюб—надзвычайна важнае пытаньне нашых дзён і Чарот малюе абраз гэтай супольнай працы.

„Гэй лапцюжнікі - слухай!
Наша вёска ня будзе больш плакаць,
Па бруку гораду,
Бач, рухае,
Рухае горда
Лазою падплецены лапаць".

Па багацьцю радасных настрояў, па бадзёрасьці і сьмеласьці размаху „Беларусь лапцюжная" можа стаяць поруч з „Босымі на вогнішчы". Паэма складаецца з 13-ці разьдзелаў — 13-ці паасобных малюнкаў, кожны з іх мае паказаць нам тыя процілегласьці ў кожнай стадыі разьвіцьця беларускага руху і нават у паасобных разьдзелах гэтыя контрасты прошлага жыцьця, упадку яго, нараджэньня новага, сучаснасьці і будучыні яскрава выступаюць. Паэт уладае словам з надзвычайнай лёгкасьцю.

„Мо' затым цярпеў я сьцюжы,
Быў галодны і ночы ня спаў,
Што я сын Беларусі лапцюжнай,
Аб якой пройдзе громкая слава".

Паэт любіць сваю вёску, сваю старую вёску — хатынку пахілую, ён помніць аб ёй:

„Гэй-жа, гэй! Зашумі сасоньнік,
Засьвішчыце віхуры ў полі,
Каб пачуў я ў горадзе сёньня
Песьню вёскі аб знойдзенай долі."

Чарот падкрэсьлівае сваё сялянскае паходжаньне, ён не аддзяляе сябе ад вёскі, ён дзіця яе:

„Лапцюжнай вёскі сын! вось ўцяку я
Адважна стрэчу ўсіх ворагаў удар.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты, Беларусь, нізіны пройдзеш, кручы
І вір жыцьця свайго пераплывеш,
Лапцюжная! Рады злучыўшы цесна
Плыві ты ўдаль бурлівай, грозпай лавай,

Сваёй мужыцкай сьмелай песьняй
Табе прарочу славу!..“

Беларусь — край сялянскі, край земляробаў. Чарот адчувае гэта дасканальна, ён заўсёды шоў і йдзе з вёскаю, за яе ён гатоў памерці „абы ўваскросла Беларусь“.

У паэму „Беларусь лапцюжная“ ўложана шмат пачуцьця і натхненьня; Чарот ярка блеснуў сваім талентам даючы малюнак гораду і яснай фарбай, сакавітай і вясёлай, намаляваў сваю каханую вёску на тле змаганьня і будаўніцтва вольнага жыцьця.

Талент Міхася Чарота разгарнуўся на ўсе галіны літэратурнае творчасьці. Апрача вершаў і паэмаў даў ён нам мініатур-камэдыю „Мікітаў лапаць“, музычную штуку „На Купальле“ і шэраг бэлетрыстычных твораў сабраных у зборніку „Веснаход“.

Бэлетрыстыка Чарота, як і вершаваныя творы, карыстаюцца вялікім пасьпехам. Гэта шэраг малюнкаў з штодзеннае рэчаістасьці, канвою для якіх служа прыход вясны, вясны новага жыцьця ў вёску, якая сваімі бурлівымі ручаямі ўскалыхнула і абудзіла сялянства.

Так напрыклад новэля „Самалёт“ дае абраз узварушаньня глухое вёскі прылётам да яе самалёту. Новэля „Кірмаш“ дае малюнак жыцьця моладзі, якое буйна ўзрастае і ўздымаецца сярод пракураных самагонам сялянскіх хат. У новэлі „Чалавек, які не нарадзіўся“ Чарот яскрава адбівае барацьбу новага быту з заскарузлымі традыцыямі старога. Большая частка апавяданьняў і новэляў носіць рэалістычны характар. Калі дзе якія сюжэты і слабаватыя, дык там памагае лёгкасьць мовы і здаровы гумар. Нават такія простыя новэлі, як „Талачка-шкрабалачка“ і „Саматканая сьвітка,“ зьяўляюцца суцэльнымі абразамі, гісторыямі жыцьця.

Адным з глыбейшых апавяданьняў напісаных з большым размахам зьяўляецца аповесьць „Грышка Сьвінапас“. Добра знаныя Чароту абставіны, у якіх адбываюцца падзеі, здольнасьць да будаваньня сюжэтаў і добрага іх разьвіцьця далі аповесьці багаты зьмест.

„Грышка Сьвінапас“ даў нам першы беларускі фільм пад назоваю „Лясная Быль“.

Як бачым, Чарот даў шмат для беларускае літэратуры і то ў арыгінальнай манеры і форме; калі цяпер і заўважываецца ў яго літэратурнае дзейнасьці перарыў, то можна спадзявацца, што ён падарыць нам яшчэ не адну рэч падобную да „Босых на вогнішчы“ і „Беларусі лапцюжнай“. Зарукаю гэтага — яго бадзёрасьць, энэргія і маладыя гады. Кажучы аб гэтым мімаволі згадываецца яго верш:

„Я шлях знайшоў,
Я слаўлю песьняй радасьць,
І песьню я
Складаю ў сэрцы тон...
Я ведаю даўно,
Даўно пара даць
Паэтам маладым
Дзён нашых перазвон.

О! Беларусь, ты ўзросьціш пакаленьне,
Тваёй змагарніцкай і вольнае пары!
Я малады
І ў сэрцы кроў струменіць
І сілай творчаю
Істота ўся гарыць."

І паэт створыць яшчэ тыя песьні радасьці і энэргіі, ад якіх бунтуе кроў, якія будзяць і клічуць да новага лепшага жыцьця, — да будаўніцтва.

„На зямлі новай — горад новы
Пабудуем на багне-дрыгве
Там, дзе сум быў завеі кляновай
Не загіне мужык-чалавек.
. . . . . . . . . . . . . . .
Край, што сьпевам
Сумліва-асеньнім
Жураўлінным аплакан быў выраем
Сваё шчасьце сабе прынясе ён
Сакаліна сталёвым уздымам".

Міхась Чарот мае ўсе даныя да таго, каб даць нам малюнак багатага, шматграннага жыцьця на больш шырокіх палотнах і ад'люстраваць грандыёзную старонку нашых дзён, даць нам, паказаць таго новага чалавека, які нарадзіўся сёньня.

У вумовах нашага культурнага будаўніцтва, з нашай небагатай культурнай спадчынай, Чарот адыгрываў і адыгрывае вялізарную ролю; апранаючы свае ідэі-думкі ў мастацкую адпавядаючую дасягненьням сучаснасьці форму, ён падае іх зразумелымі масам.

Скончу агляд творчасьці Міхася Чарота яго ўласнымі славамі, з якіх, як і з усіх яго твораў, б'е струмень бадзёрасьці, энэргіі і надзеі:

„...Мы створым жыцьцё новае,
Збудуем палац да нябёс!..."

*Аўгень Бартуль.*

# Ad astra.

Да яснай мэты, ідэі сьветлай я рвуся горды, зямлі панурай я сын адважны.

Ўгары бліскуча зіяюць зоры і чырванавым сьвятлом іграюць ў аправе цёмнай прастораў ночы.

Мне дух бунтарны прышяў да плечаў парываў крыльля, сказаў —ірвіся ў краіну зораў.

І я ірвуся, жыву ў парывах, я сын адважны зямлі панурай,— зямлі мне мала, на ёй так цесна, на ёй так брудна.

Ужо спрадвеку ірвуся сьмела—да ясных зораў; кругом задуха, мне цесна тутка.

Да зор парывы ўздымаюць крыльля; пацняцца цяжка, гразь прыліпае і цягне ў прорву.

Праз прорвы к зорам прарвуся сьмелы, я сын адважны зямлі панурай.

Ў краіне мрояў, ў краіне ценяў ўздыхну я вольна.

Іскру адтуль я схвачу і кіну ў краіну ценяў, ў краіну цемры.

Іскру надзеі з размахам кіну, хай бухне грозна агонь вялікі.

Пажар збаўленьня зямлю ахопіць; на пацялішчы часоў мінулых ўзрасьце магуча сьвет лепшы, новы.

І крыльля горда паветра рэжуць, нясуць ў краіну ідэі сьветлай; зямля спадлела, тут столькі бруду, тут столькі зьдзеку і подласьць ўсюды пануе сьмела.

Хто верыць ў духа—за мной да зораў!

Хто ў перамогу ідэі сьветлай ўсім сэрцам верыць—сьмялей наперад!

Я чалавек, адна натуга—гразь ападае і крыльля вольна нясуць ў прасторы.

Задуха тутка, гразь, подласьць ўсюды; сьмялей наперад праз прорвы цемры.

Да яснай мэты, ідэі сьветлай я рвуся горды, зямлі панурай я сын адважны.

Сьмялей наперад!

Хай сьмерць спаткае, цалункам палкім парывы ўсьціша.

Я ў перамогу ідэі сьветлай, я ў духа веру, я буду рвацца ўпярод—да зораў!

## Дзе бы?

Прайшлі залатыя, любыя дні,
Шчасьце гэт' ў даль адляцела,
Згаснулі ціха каханьня агні,
Змоўкнула песьня, самлела...
Дзе-ж вы падзеліся дзіўныя сны
Цуднае, казачнай хвілі?
Зьвялі раскошныя краскі вясны,
Сумна галовы схілілі.
Змоўклі акорды песьні бурлівай,
Звонкія струны сарваны,
Эх! Не вярнуць больш пары той шчасьлівай,
Жаль толькі ў сэрцы схаваны.
Дзе-ж тыя першыя мроі-парывы,
Ласкі каханай дзяўчыны?
Ў даль адыйшоў час бязконца-шчасьлівы
Гаснуць паціху ўспаміны...
Дзе-ж тыя мілыя, любыя дні?..
Жаль па іх ў сэрцы схаваны;
Згаснулі ціха каханьня агні,
Звонкія струны сарваны.

А. Б.

# Станку.

*(з рыжскіх успамінаў).*

Помню пару,
Так нядаўна было...
Шчыра завод я любіў,
Хоць ад заводу
Жыцьцё аднясло—
Песьню станка не забыў.

Помню...
Сарвесься з пасьцелі сваёй,
Кліча гудок да станка.
Помню станок...
Мімаволі яго гладзіла горда рука.

Помню...
Машыны..: трансмісыяў рад...
Скончыў гудок,
Ажылі.
Рукі сьціскаліся...
Эх! станок—брат,
Слаўна з табой мы жылі!

Песьні твае,
Што тады ты сьпяваў,
Помню...
Я помню іх звон,
Я пры табе сваю думку скаваў,
Думку надходзячых дзён.

Я сын вялікай працоўнай сям'і
Шчыра завод свой любіў
Я для працоўных дам сілы свае,
Буду для іх толькі жыў.

Я не забыўся цябе, мой станок,
Помню...
Сталёвы твой звон;
Стану ў рады, як пакліча гудок,
Як клічам расьпеніцца ён.

*Аўгень Бартуль.*

Вільня, 1928 г.

# Багаславенны.

*(насьледаваньні).*

Багаславенны, што сеюць краскі
Сярод змаганьня, грому, няласкі
І шчыра дбаюць аб чыстым суменьні...
Багаславенны! Багаславенны!
Багаславенны, што ў прышласьць верацъ,
Што ў шчасьці зоркі надзею шырацъ,
Хоць гінуць ў смутках і зьдзеку цемры...
Багаславенны! Багаславенны!
Багаславенны, што ў аб'яднаньні
Да сьвету рвуцца сэрцам, душамі,
Хоць мо' ў агонь йдуць, пад град каменны.
Багаславенны! Багаславенны!
Багаславенны, хоць лёс іх душыць
І боль за грудзі—сэрца бярэ
(Як-бы агонь іх пякельны душыць,
Як бы каршун іх клюе, дзярэ),
Хоць зьгінуць ў страшным надта „вянзеньні".
Багаславенны! Багаславенны!

*Алеся Ц.*

# Другу

*прысвячаецца М. В.*

Ня йдзі дружа ў сьвет шырокі,
Як ня можаш! Не!
Бо ты бедны, ты далёкі,
Ты забыты, адзінокі.
Табе ў цёмным сьветле мроку
Счасьце ня сьвітне.
Ня шукай там дружа счасьця;
Яно толькі ў сьне...
Людзі злыя, людзі брацьця,—
Жывуць ў роскашы—пракляцьці,
За душу тваю багацьце,—
Высьмяюць Цябе.
З сэрца агонь праўды вырвуць;
Рука ня дрыгне.
Твае думкі збэсьцяць, скрывяць
Апаганяць, грошам згніляць
Душу струцяць і адыймуць...
Знойдзешся ў дрыгве,
Шмат спазнаеш гора, мукі...
Згубішся у цьме...
Сцепянееш—спусьціш рукі,
На ўсё плюнеш ад дакукі.—
А там з нетраў душы—гукі
Замучаць цябе.
Дык няйдзі-ж ты ў сьвет шырокі
Дружа! ня йдзі! Не!
Йдзі ў Народ твой адзінокі—
Што загнаны рукой рока
І ратуй яго—здалёка
Мо й зорка сьвітне!

*М. Тулейка.*

# Слова а палку Ігараве.

. . . . . . . . . . . .
Адвечныя скрыжалі роднае зямлі
Хаваюць нашы скарбы, носяцца над краем,
Паказываюць жыва, як дзяды жылі,
Гавораць нам яскрава, што мы мелі, маем
Ад песьняроў-прарокаў.
Баянаў сын насьледнік, — Ігара гусьляр, —
Пакінуў нам на славу песьні залатыя.
Праз восем праз сталецьцяў з краю ценяў, мар
Прышлі да нас, як госьці, птахі-гусьлі тыя,
Бы зьяньне праз аблокі.
Пад попелам пад пылам манастырскіх крат
Знайшлі стары паргамэнт песьняў пад заховай
Народы і плямёны, кожны на свой лад,
Гардзіліся знаходкай Ігарава Слова,
Эвангельлем славянаў.
. . . . . . . . . . . .
(„Паходні", Ясакар).

У другой палове XII стагодзьдзя зьяўляюцца ў рускіх стэпах полаўцы, і на працягу двух вякоў пагражалі, бы цёмныя хмары гатовыя зараз-жа сыпнуць громамі й бурамі, згубай і спусташэньнем. Тагачасныя легапісы перапоўненыя апісаньнямі палавецкіх нападаў і іх старонкі веюць страхам перад гэтым ворагам, нападаўшым на безбаронныя месты й сёлы, каб усё аграбіць і зьнішчыць, а людзей узяць у палон. Пачынаецца рад паходаў проціў іх. У XII стагодзьдзі гэтыя паходы зьяўляюцца ўжо зусім масавымі рухамі, якімі кіруе жаданьне да змаганьня з супольным ворагам і жаданьне славы. Трэба думаць, што гэтыя паходы яскрава ўрэзваліся ў памяць князёўскай дружыны, у выніку чаго зьяўляюцца апавяданьні аб па-

сьпехах пэўных асобаў і пэўне-ж радзілася натхненьне ў песьняроў да праслаўленьня ў песьнях князёў, праліўшых кроў за родны край.

Адна з такіх песьняў, зложаная ў XII стагодзьдзі, захавалася да нашых часоў, як адбітак тагачаснага князёўска-дружыннага жыцьця. Гэта песьня — „Слова а палку Ігараве“, уложаная на памяць аб паходзе Ноўгарад-Северскага князя Ігара проціў полаўцаў (у 1185 г.). Падчас гэтага невялікага й пры гэтым няшчасна кончыўшагася паходу князёвы войскі былі абкружаны і ўзятыя ў палон. І гэты невялікі, няўдачны паход быў апяяны князёўскім песьняром.

У летапісах можна знайсьці досыць падрабязныя весткі аб паходзе князя Ігара. Апісаньні падзеяў ў „Слове“ і ў летапісах па свайму характару вельмі бліскія. Відаць, што гэтая песьня ўложаная сучасьнікам, які быў бліска знаёмы з гэтым паходам і, магчыма, што сам прымаў удзел у ім. На гэтую сувязь з сучаснасьцяй паказвае й сам аўтар „Слова“ у сваім уступе, кажучы, што ён будзе апісваць паход Ігара „по былінам сего времене, а не по замышленію Бояню“. Аб Баяне — сваім папярэдніку, аўтар адзываецца з вялікай пашанай. „Боян бо вешчій, — так успамінае аб гэтым песьняры аўтар „Слова“ — ашче кому хотяше песнь творіті, то растекашеться мысію по древу, серымь в'лкомь по землі, шізымь орьломь под' облакы... н' своя вешчая пьрсты на жівыя струны в'складаше; оні же самі князем' славу рокотаху“. Пры гэтых успамінах аб Баяне, аўтар „Слова“ паралічвае нам і тых князёў, якіх ён апяваў.

Ад успамінаў аб Баяне і аб старых часох, аўтар „Слова“ пераходзіць да запраўднасьці і кажа: „почнем'же, братіе, повесть сію от стараго Владіміра до нынешьняга Ігоря“, які, „нап'лнів'ся ратьнаго духа, наведе своя храбрыя п'лкы на землю половецкую за землю руськую“. Потым пачынаецца „трудная повесть“ аб чынах Ігара, якую дасьледчыкі гэтага памятніка дзеляць на тры часткі.

У першай частцы Ігар выступае ў паход, хоць у зацьменьні сонца, пакрыўшым яго дарогу цемрай, бачыць паказаньне на няшчасны вынік свайго прадпрыемства. Але ён не падае духам і гаворыць сваім ваякам: „луче ж' бы помяту быті, неже полонену быті“. У Пуціўлі ён сустракаецца з сваім братам — князем Усеваладам, які хваліць сваіх ваякаў. „А мої ті Куряне — кажа Ўсевалад — сведомі кметі: под' трубамі повіті, под' шеломы в'злелеяні, конець копія в'ск'рмлені, путі ім' ведомі, яругы ім' знаемы, луці у ніх' напряжені, тулі отворені, саблі із'острены, самі скачюць, акы серыі в'лці в' поле, ішчючі себе чьті, а князю славы“. Пасьля гэтага наступае апісаньне боек, спачатку ўдачных, а потым няшчасных для князёўскіх войск... „Половьці ідуть от' Дона і от' моря, і от' вьсех' стран', русьскыя п'лкы оступіша“. Усе князі б'юцца храбра, але найхрабрэй ад усіх — Усевалад: „камо, тур', паскачаше, своімь златымь шеломомь посвечівая, тамо лежать поганыя головы половецькія; поскепані саблямі каленымі шеломі оварстіі от' тебе, яр'-туре Вьсеволоде!“... Але полаўцы перамагаюць... „Чьрна земля под копыты костьмі посеяна, а кровію польяна, — тугою в'з'ідоша по русьской землі“. Далей пясьняр горка жаліцца на тое, што „усобіца князем'... рекоста бо брат' брату; „се мое, а то — мое же“. І начаста князі про малое „се велікое“

м'лвіті, а самі на себе крамолу коваті, а поганіі с' вьсех' стран' пріхождаху с' победамі на землю Русьскую".

Другая частка „Слова а палку Ігараве" пачынаецца з апісаньня сну, які бачыць князь Сьвятаслаў Кіеўскі. Сон не прадсказвае нічога добрага. — І сапраўды: баяры вялікага князя паведамляюць яго аб няўдачы спаткаўшай яго сыноў, аб загубе іхняга войска й дружыны і аб іхнім палоне. Стары князь Сьвятаслаў аплаківае сваіх сыноў і, у гарачым парыве, зварочваецца да ўсіх князёў, кажучы ім: „В'ступіта, господіна, в' злата стремена за обіду сего времене, за землю русьскую, за раны Ігоревы, буяго Свят'славліча!" Адначасна і жонка Ігарава, Яраслаўна, чуючы сэрцам няшчасьце, бродзіць адзінокая па сьценах места Пуціўля, глядзіць у непраглядную стэповую даль і горка аплаківае свайго мілага мужыка.

Гэты „плач Яраслаўны" — адно з самых поэтычных мяйсцоў „Слова а палку Ігараве". — Вельмі прыгожа пераклаў яго наш народны поэт Янка Купала:

А ў Пуціўлі Яраслаўна,
Бязуцешнаю зязюляй
Наракае рана, рана:
„Паляту я ў даль зязюляй.
Па Дунаю, за дубровы,
Памачу ў рацэ Каяле,
Рукавок я свой бабровы.
І злячу да князя ў полі
Дзе ў зялёнай лёг пасьцелі,
І крывавыя ўтру раны
На яго магутным целе".

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне.
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О сьветлае сонца,
Трысьветлае! Усюды
Цяплом і красою
Ясьнееш, як цуды!
Чаму-ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужняе войска
Нанясла няждучы?!...

У трэцяй частцы „Слова" апісваецца паварот Ігара з палону. Пясьняр, захоплены радасным пачуцьцём пры апісаньні гэтай падзеі, рысуе нам поэтычны абраз агульнага вясельля, агульнага спачуцьця да Ігара, як з боку людзей, так і з боку самой прыроды. Але гэтага мала: уся прырода сьцеражэ Ігара ад усякіх бедаў і небясьпекаў і памагае яму ўцякаць з палону: „врані не граяхуть, галіці пом'лкоша, сорокы не троскоташа, по лозію ползаша только; дятьлове тек'-томь путь к' рецe кажуть, соловіі веселымі песньмі свет' поведають". Вось, у канцы, ён едзе ўжо ўверх па Дняпры, да Багародзіцы Пірагошчай, — каб падзякаваць за вызваленьне з палону. „Здраві князі і дружіна, побарая за хрістьяны на поганыя п'лкы! Князем' слава і дружіне. Амінь!" — Так канчае сваю песьню невядомы нам пясьняр.

Адным з цікавых бакоў „Слова а палку Ігараве", зьяўляецца памяшаньне хрысьціянскай веры з чыста паганскімі паглядамі. Бог паказвае Ігару шлях з зямлі полаўцаў; прыводзіцца прыпеў Баяна: „ні хітру, ні горазду суда Божія не мінуть"; полаўцы называюцца паганамі. І — побач з гэтымі выражэньнямі — аўтар „Слова" называе Баяна „Велесовым' в'нуком"; ветры — „Стрыбожымі в'нукамі"; прыпамінаюцца й другія мітолёгічныя істоты, як Хорс, Траян і інш. Відаць, што пясьняр — хрысьціянін — яшчэ не забыўся старых ба-

гоў, яшчэ ня можа зусім адрачыся ад веры ў іх і, пры аказіі, мімаволі ўспамінае іх.

Ня гледзячы на гэта, гістарычная асноведзь цесна зьвязана ў „Слове“ з поэтычнай формай. Можна яшчэ думаць, што „Слова а палку Ігараве“—ня было адзіным поэтычным творам XII-га стагодзьдзя. Да гэтага твору мусілі быць яшчэ й другія, падобныя-ж, і адкідваць істнаваньне іх толькі дзеля таго, што яны да нас не дашлі—не магчыма. Сам аўтар „Слова“ успамінае аб Баяне і аб яго вялікіх песьнях.

Гісторыя гэтага памятніка нашай старой літэратуры даволі цікавая. Рукапіс „Слова“ захаваўся толькі да пачатку мінулага стагодзьдзя. Быў ён знойдзены А. И. Мусіным-Пушкінам у 1795 годзе. Але ўжо ў 1812 годзе, падчас пажару Масквы, рукапіс „Слова а палку Ігараве“ загінуў. Захаваўся толькі сьпісак яго, які быў зроблены для расейскай імпэратрыцы Кацярыны.

„Слова а палку Ігараве“ зрабіла на многіх поэтаў вялікі ўплыў. На заканчэньне можна сказаць, што гэта найслаўнейшы твор нашага старадаўнага пісьменства, які, слушна называе наш поэт Ясакар, ёсьць „Эвангельлем славянаў“. *Б. Стэповіч.*

# Аб польскім студэнстве У. С. Б. і яго адносінах да беларускага студэнства.

У сучасны момант адносіны ў нас так зложыліся, што мы беларусы жывём сваім замкнутым жыцьцём. Не разглядаючы, ці такі стан зьяўляецца для нас шкодным, ці карысным, аб'ектыўна мусім сьцьвердзіць, што сяньня, пасьля досьледаў недалёкай мінуўшчыны, усялякая з нашага боку спроба паразумленьня не дала-б ніякіх пазытыўных вынікаў, а толькі была-б у супярэчнасьці з пачуцьцём уласнай нацыянальнай годнасьці. Такі стан будзе трываць так доўга, пакуль на другім боку ня знойдзецца толькі добрае волі, каб сяньняшні стан зьмяніць на лепшы.

Калі ўсё вышэй сказанае можна аднясьці да падзеяў сярод старэйшага грамадзянства, то і адносна студэнскай моладзі можна зрабіць тыя самыя спасьцярогі. Беларускае студэнства перад некалькі гадамі думала, што ўдасца дабіцца з польскімі студэнскімі дэмократычнымі коламі пэўнага ўжо не супрацоўніцтва, а проста больш-менш згоднага сужыцьця, знавалася-б падыктаванага тым, што як адны, так і другія зьяўляюцца таварышамі па школьнай лаве. Аднак тагачасныя спробы ўладзіць адносіны ня толькі не далі ніякіх памысных рэзультатаў, але наадварот — і такое-сякое сужыцьцё пагоршылі. Уся гэтая справа мела свой водгук у выдаванай ужо тады „Студ. Думцы.“ Ад таго часу ніхто не рабіў у гэтым кірунку якіх колечы спробаў. Беларусы з ініцыятывай не выступалі, уважаючы, што гэта—пераліваньне з пустога ў парожнае. Больш нават, усякая спроба навязаць лучнасьць з полькімі студэнтамі, пры ведамых адносінах іх да ўсяго, што беларускае, сьведчыла-б аб тым, што ня дбаем аб сваё нацыянальнае пачуцьцё.

Тыя йзноў польскія студэнскія колы, якім магчыма было з намі гаварыць і якіх гэта нават абавязкам было і ёсьць, былі і слабыя і разьбітыя і не грашылі зразуменьнем справы і толерантнасьцяй. Адным словам, у працягу 3-4 гадоў у галіне міжнацыянальных адносін нічога ня зроблена ў сэнсе іх уладжаньня. Наадварот, здараліся выпадкі, калі нелачыгальныя адзінкі сярод палякаў, прыкладам студэнт Каралькевіч, міжнацыянальныя адносіны паганілі, выдаючы што праўда гэтым самым доказ сваей бяздоннай агранічанасьці, а ніхто з палякаў, маю на думцы арганізацыі, проціў гэтага не запротэставаў.

Агулам польская студэнская моладзь на віленскім унівэрсытэце адзначаецца надзвычайнай пасыўнасьцю. Усе арганізацыі ідэо-палітычныя праяўлялі абсалютную бяздзейнасьць. Асабліва гэта адносіцца да дэмократычнае польскае моладзі. Ад польскай студэнскай дэмократыі як-ніяк можна-б было спадзявацца, што яна выступіць проціў тых нацыяналістычна-шовіністычных закусаў, якія праводзілі эндэкі. Думалася, што маладая польская дэмократыя адкіне ўсялякі компроміс з эндэкамі, аднак так ня сталася. Ці то йдзе аб увядзеньне рэлігійнай кляўзулі адносна прыйма ў нікаторыя студэнскія арганізацыі, дзе дэмократы ня вытрывалі на становішчы, ці аб агульную рэпрэзэнтацыю У. С. Б. Ня хочам рабіць закідаў, але здаецца не далёка ад праўды, калі скажам, што ў гэтым выпадку студэнты дэмократы палякі ўважалі, што бліжэйшая сарочка-целу, бліжэйшы эндэк-паляк дэмократу, як беларус, літвін і жыд. Такая тактыка ў будучыні помсьціцца на самых студэнтах дэмократах. Гэта не падлягае сумліву.

Тымчасам беларусы студэнты за гэтыя некалькі год штораз больш консолідуюцца. Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні сяньня зьяўляецца найпаважнейшай адзінкай, гуртуючай беларускую студэнскую моладзь. У Саюз з кожным годам уліваюцца маладыя сілы, дзякуючы наданьню правоў Бел. гімназіям. Такім чынам можна лічыць, што замкнутасьць беларусам студэнтам прынясла тую карысьць, што змусіла іх лічыць на свае ўласныя сілы, скіраваць увагу на самоўзгадаваньне і перашкодзіла разцярушэньню сілаў і энэргіі падчас змаганьняў, якія вяліся і вядуцца ў агульна студэнскіх арганізацыях.

Сярод польскай студэнскай моладзі амаль ад пачатку ўваскрашэньня віленскага ўнівэрсытэту пераважалі ультра-нацыяналістычна-шовіністычныя тэндэнцыі. Эндэцкая моладзь пад фірмай „Młodzież wszechpolska“ у 1925 захапляе кіраўніцтва агульна акадэміцкім жыцьцём. Удаецца ёй змаёрызаваць уплывы іншых групаў, апанаваць студэнскія ўстановы, як Братняя Помач. Такім чынам эндэкі рэпрэзэнтавалі і рэпрэзэнтуюць моладзь Унівэрсытэту С. Б. унутры і звонку. Польская студэнская дэмократыя не старалася рашуча проціўставіцца эндэкам —наадварот—дзе бывшы, ішла з імі на компроміс, бо й сама не пазбаўлена была нацыяналістычна-шовіністычнае афарбоўкі. Баялася, што ёй эндэкі закінуць „непатрыётычнасьць“ і г. д.

„Вшэхпалякі“ як ідэовы напрамак — гэта авангард эндэцыі, няпрымірымы вораг усіх нацыянальных меншасьцяў.

Рука ў руку з „Вшэхпалякамі“ ад пачатку ішла другая група, гэта „Odrodzenie“. Гэтая група таксама ідэолёгічна зблізілася да „Вшэхпалякаў“, кладучы націск на ўзгадаваньне моладзі ў духу ка-

таліцкіх ідэалаў. Каталіцкія ідэалы змагло „Odrodzenie“ лучыць з шовінізмам у адносінах да не палякоў.

Абоз т. зв. дэмократы рэпрэзэнтавалі ў той час тры групы. Гэта O. M. N. (Organizacja Młodzieży Narodowej), Polska Młodzież Ludowa i Niezależna Młodzież Socjalistyczna.

O. M. N. у сваіх пачатках была філіяй эндэцыі, пасьля 1908 г. яна ад эндэцыі адыйшла, ня годзячыся з угодніцкімі нахіламі Н. Д. На Віленскім Унівэрсытэце арганізацыя гэная ня мела шмат прыхільнікаў. Процістаўляючыся эндэкам да вайны, яна опэравала папулярным і тэорэтычна прыемлівым лёзунгам „За нашу і вашу вольнасьць“. У стычнасьці з жыцьцём „Наша вольнасьць“ сталася нашай, а ваша — дык Бог з ей.

P. M. L. (Polska Mł. Lud.) зьявілася па здабыцьці незал. Польшчай. Гуртуе яна сыноў вёскі. Ідэолёгічна там ідзе барацьба між пястоўцамі і вызваленцамі. Большасьць сябраў P. M. L. паходзіць з этнографічнае Польшчы, нічым не зьвязаных з нашым краем. Трэба аднак аддаць справядлівасьць, што „людоўды“, паходзячыя з этнографічнае Польшчы, калі ня прыхільна адносяцца да нашых ідэалаў, то прынамся стараюцца быць об‘ектыўнымі, чаго ня можна сказаць аб „людоўцах“—сынох беларускай вёскі гаворачых з бацькамі пабеларуску.

N. Mł. S. не налічвае ў Вільні шмат прыхільнікаў. Пераважаюць там людзі таксама прыехаўшыя да нас. Знаходзяцца яны пад уплывам П. П. С. Заглядаючыся на справу прынцыпова, здавалася-б, што з соцыялістамі можна-б было дагаварыцца. Аднак праўду кажуць тыя, што сяньняшнія соцыялісты польскія не падобны да даўнейшых (1903—5 г.), асабліва яшчэ тады, калі знаходзяцца пад уплывам тых, хто ў беларускім руху з моладу браў актыўны ўдзел, а пасьля адыйшоў.

Можна-б было залічыць да абозу польскіх дэмократычных арганізацыяў „Zjednoczenie“. Гэта арганізацыя жыдоў-асымілятараў. Не адыгрываюць аднак яны значнай ролі. Ад адных адыйшлі (жыдоў), другія ня вельмі прыхільна прыймаюць іх (палякі).

У працягу ад 1925 г. да сяньня ў радох польскае студэнскае моладзі наступіла значная дыфэрэнцыяцыя. Пераломам тут у вялікай меры быў 1926 г. і выпадкі з ім зьвязаныя. Выпадкі 1926 г., калі іх разглядаць у плошчы чыста польскіх справаў, былі скіраваны проціў эндэцыі. Праўда, пасьля выйшла трохі інакш... Таму яны сваё рэха знайшлі і ў студэнскай сям‘і. Зьяўляюцца спробы стварэньня студэнскай арганізацыі, якая-б была адбіцьцём таго праўна публічнага і соцыяльнага парадку, які маемо цяпер у дзяржаве. Гэтыя спробы знайшлі ў 1927 г. сваё арганізацыйнае афармленьне. У 1927 г. паўстае „Z. P. M. D. (Związek Polskiej Młodzieży Demokratycznej“. Арганізацыя гэная паўстала са злучэньня на зьездзе ў Варшаве трох арганізацыяў, іменна: успомненай вышэй O. M. N., „Akademickiego Związku Młodzieży Postępowej“, „Akademickiej Polskiej Organizacji Wolności“.

У другіх унівэрсытэцкіх асяродках у гэтую арганізацыю ўвайшлі лёкальныя арганізацыі моладзі. Z. P. M. D. паставіў сабе за заданьне працу над перэтварэньнем сяньняшняга тыпу грамадзяніна, які быццам забыўся аб грамадзкіх абавязках, а толькі дамагаецца раз-

шырэньня індывідуальных правоў адзінкі. Далей, праца над паглыбленьнем дэмократыі ў масах, што мае лучнасьць з першым заданьнем у тым сэнсе, што добра панятая дэмократыя — гэта гармонія правоў з абавязкамі, а часам і ахвяра абавязку. А найгалаўнейшым мо' заданьнем, — гэта абарона сяньня пануючага „рэжыму“ без якіх колечы засьцярогаў.

Адносна нацыянальнага пытаньня гэтая арганізацыя не пасувулася ані на крок уперад. Наадварот, узяўшы пад увагу львоўскія выпадкі, далей энунцыяцыі ідэолёгаў L. P. M. D. у органе „Brzask“ можна судзіць, што адносна вырашэньня нацыянальнага пытаньня, новыя дэмократы мала рожняцца ад эндэкаў.

Заслугай адзінай іх зьяйляецца барацьба, якую вядуць з эндэкамі. (Есьлі мова аб Вільні, то тут іх заслугі меншыя). Барацьбу гэтую і ідучае з ею аслабленьне „Вшэхполяков“ можна ўважаць за карысныя зьявы.

І тут малая дыгрэсыя. Здараецца чуць ад палякаў студэнтаў і старэйшых, чаму мы беларусы не супрацоўнічаем з палякамі дэмократамі? На пытаньне такое можа быць адзін адказ: Блізка што да гэтае пары, а нават і сяньня студэнты дэмократы так распылены, што ня ведама, каго і што рэпрэзэнтуюць. Але ня ў гэтым сутнасьць справы. Мы беларусы, дамагаючыся ажыцяўленьня загварантаваных нам правоў, ня сустрэлі падмогі з боку польскіх дэмократаў. На грунце ўнівэрсытэту дэмократы ня сталі на плятформе роўных абавязкаў і правоў усіх грамадзян унівэрсытэту.

Дэмократы кажуць, што стаяць на тым становішчы, што сьпярша абавязкі, пасьля правы. Дык ці ёсьць інакш? Ці мы не выпаўняем сваіх абавязкаў, як грамадзяне дзяржавы, унівэрсытэту і г. д. Усякі протэст проціў уважаньня нас за грамадзян II катэгорыі, дык гэта пакуль што тольлі самаабарона. За што-б вы нас уважалі, каб мы ня ўмелі бараніць свайго нацыянальнага гонару? Зразуменьня належачых нам правоў і дзеючыхся нам крыўдаў мы ня сустрэлі з боку маладых польскіх дэмократаў. Як доўга гэтага зразуменьня ня будзе і як доўга сярод дэмократаў будзе панавала думка аб нашай дэнацыяналізацыі, так доўга ня можа быць мовы аб якім колечы супрацоўніцтве. А прорву, якая за гэты час паўстане і паглыбіцца, пасьля будзе куды трудней засыпаць.

Такім чынам пачынаючы ад 1926 г. эндэцкая моладзь пачынае паступова траціць уплывы. Трацяць уплывы на карысьць „санацыйных“ элементаў, перш за ўсё. У канцы трацяць свайго вернага саюзьніка— „Odrodzenie“.

Цікаўны працэс адбыўся ў „Odrodzeniu“. Арганізацыя, каторая за заданьне ставіць узгадаваньне моладзі ў духу каталіцкіх ідэалаў, была сьпярша таксама шовіністычна настроена адносна іншых нацыянальнасьцяў. Нічога дзіўнага. У Польшчы паняцьці „паляк“ і „каталік“ ідэнтыфікуюцца. Пад канец 1928 г. „Odrodzenie“ мяняе свой воблік. Выкідаецца з праграмы баявы нацыяналізм. Зьмены ідуць у напрамку разьвіваньня моладзі ў духу інтэгральнага каталіцызму. Лідэр „Odrodzenia“, к. Г. Дэмбіньскі, які сваей індывідуальнасьцяй моцна заважыў на эволюцыі, якую перайшло „Odrodzenie, у сваіх публіч-

ных выступленьнях горача выступае проціў нацыяналізму эндэкаў і кажа аб „анацыянальнай дзяржаве“ як ідэале.

Праўда, ён мрые аб „mocarstwowej“ Польшчы, „mocarstwowaść“ бачыць у тым, што Польшча — „antemurale“ хрысьціянства. Гэтыя мрыі няшкодны, у такой плошчы можна вясьці спрэчкі. Такім чынам эндэцыя знайшлася у адасабленьні і раней ці пазьней з яе рук выпадзе рэпрэзэнтацыя акадэміцкае моладзі Віленскага Унівэрсытэту. Гэту зьяву можна ўважаць за карысную.

Як павінны устасункавацца студэнты-беларусы да тых бязумоўна вялікіх зьменаў, якія мелі і маюць месца ў радох польскай студэнскай моладзі? Трудна адказаць на гэткае пытаньне. Яно вымагае сумленнае апрацоўкі, перадуманьня. Наша замкнутасьць—падыктаваная аб'ектыўнымі варункамі, у якім знаходзімся. Пакуль такія варункі істнуюць, трудна гаварыць аб тых ці іншых зьменах нашага становішча.

Аднак не падлягае сумліву, што наша замкнутасьць мае і шкодныя праявы. Мы ня можам такім чынам выкарыстаць тых магчымасьцяў, каб заявіць, што жывём і з кожныма днём крапчэем — якія-б мелі уваходзячы ў агульна студэнскія аргнізацыі. Небясьпека затануць у польскім„моры“ ня мае абаснаваньняў. Мора гэнае не такое ўжо глыбокае...

Уваходзячы нпр. ў „Братнюю Помач“, якой сябрамі зьяўляемся, здалелі-б у большай меры падбаць аб забясьпэчаньні матэрыяльных інтарэсаў студэнтаў беларусаў. Наш уваход меў-бы і агульны характар. Пры нашай цяперашняй сіле — гэта ня мрыя. Больш толькі заінтэрэсаваньня і актыўнасьці.

І толькі ўгэным напрамку мы можам спатыкнуцца з тымі польскімі студэнскімі арганізацыямі, якія не паддаліся зусім нацыяналістычнаму чаду. Перш за ўсё з дэмократамі, у шырокім гэтага слова значаньні. Аднак калі-б мы і пашлі з палякамі, ня робім ніякіх забавязаньняў, датычна якога колечы далейшага супрацоўніцтва. Ролі на толькі ў нас зьмяніліся, што калі перад некалькі гадамі палякі казалі, у сувязі з вырашэньнем нацыянальнага пытаньня, —„Час найлепшы лекар,“ дык мы адказваем, што сяньня і для нас: час — гэта найлепшы саюзьнік. *Я. Зянюк.*

# Аб беларуска-літоўска-украінскім студэнскім зближэньні.

У апошнім нумары „Ст. Думкі“ з мінулага году — ў артыкуле Т. М. зьмешчаным у „Вольнай Трыбуне“ — была парушана справа стварэньня агульнай меншасьцёвай студэнскай арганізацыі ў межах Польшчы. Патрэбу стварэньня гэткай аргачізацыі выклікаюць шмат супольных, а разам і балючых спраў, якія мае студэнская моладзь нацыянальных меншасьцяў Польшчы. Аўтар стацьці падае задачы гэткае арганізацыі і спосабы яе рэалізацыі. Задачай арганізацыі было-б зближэньне і ўзаемнае пазнаньне студэнтаў нацыянальных меншасьцяў,

зразуменьне супольных спраў, скансолідаваньне сілаў і вырашэньне спраў гэтымі супольнымі сіламі; спосабы-ж яе (арганізацыі) рэалізацыі такія: паасобныя студэнскія саюзы цераз сваіх дэлегатаў завязваюць агульную меншасьцёвую студэнскую канфэдэрацыю, якой урад, зложаны з прадстаўнікоў усіх нацыянальных меншасьцяў, кіраваў-бы працай. Вось агульны контур арганізацыі. Думкі Т. М. падаными ў праэкце бязумоўна актуальныя і патрэбныя.

Ня маем яшчэ дасюль голасу ў гэтай справе ад студэнтаў нац. меншасьцяў усіх унівэрсытэцкіх асяродкаў Польшчы. Маем затое яго на віленскім ґрунце — ад студэнтаў літоўцаў і ўкраінцаў. Дый ня толькі голас, як такі, як выражэньне погляду адносна закранутай вышэй справы, але і праводжаньне праекту Т. М., — праўда ў зьмененай форме, у жыцьцё.

Зьліжэньне, якое мае на мэце пазнаёміць з нацыянальнай культурай, гісторыяй, эканамічным і палітычным жыцьцём і ідэаламі народаў, якія рэпрэзэнтуе студэнцтва беларускае, літоўскае і украінскае, а так-жа збліжэньне з мэтай пазнаньня і згоднага вырашэньня сьціслa студэнскіх супольных спраў на грунце віленскім—ужо запачаткавана.

Спосабы зьдзейсьненьня пастаўленай мэты пакуль-што будуць праяўляцца ў арганізацыі рэфэратаў, лекцыяў, канцэртаў, супольных вечароў, таварыскіх гарбаткаў, экскурсіяў і т. д.

Студэнскія саюзы У. С Б.: Беларускі, Літоўскі і Украінскі у месяцы студні гэтага году дзеля вядзеньня гэткай супольнай акцыі па намечаным шляху — выбралі ad hoc спэцыяльны выканаўчы орган— эгзэкутыву.

Вынік працы гэтага органу ўжо зарысаваўся прыгожымі рэзультатамі: наладжаны два таварыскія студэнскія вечары (якіх падрабязнае апісаньне ў хроніцы).

Дык як бачым, водгук думак Т. М. — — аб'явіўся, праўда ў зьмененай форме, — у жывой рэчаістасьці, у студэнстве беларускім, украінскім і літоўскім віленскага ўнівэрсытэту

Гэтую сымпатычную праяву студэнскага жыцьця з радасьцю вітаем, а ў будучыне думка ўзаемнага беларуска-літоўска-украінскага студэнскага збліжэньня хай лунае яркім сьветам і знаходзіць поўную рэалізацыю.

Студэнскае збліжэньне хіба-ж не малую ролю можа адыграць і ў узаемных адносінах Народаў: беларускага, літоўскага і ўкраінскага агулам. *Я—іч.*

# Беларуская Акадэмія Навук у Менску.

Радасным рэхам адбілася ў сэрцы хіба-ж кожнага Беларуса, бяз увагі на тое, гдзе-б ён не пражываў і знаходзіўся, — вестка аб аднэй з найбольш прыгожых і прыемных праяў нашага маладога адраджэнскага руху — факту ўтварэньня Беларускай Акадэміі Навук у Мэнску. Для нас Бэларусаў, жыхараў Заходняй Беларусі, гдзе з прычыны спэцыяльных абставінаў, утвораных польскай палітыкай, беларускае грамадзкае жыцьцё агулам, а культурнае перадусім слаба разьвіваецца — вестка з Усходняй Беларусі аб утварэньні Белару-

скай Акадэміі Навук — мае асабліўшую насалоду і ўцеху. Кожны Беларус, ці быў-бы ён найзаядлейшым ворагам пануючага у Савецкай Беларусі дзяржаўнага і грамадзка-політычнага ладу, ці быў-бы ён яго сымпатыкам, — факт паўстаньня гэтае найвышэйшае навуковае установы прыйме за вялікае дабрадзейства для беларускага народу з боку уладаў Б. С. С. Р., і пастанову Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Рады Камісараў Б. С. С. Р. у Менску з дня 4-га кастрычніка 1928 г. — аб рэарганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук — заліча да аднэй з найсьвятлейшай і найпрыгажэйшай старонкі гісторыі Беларусі.

Зачаткам Акадэміі Навук была зарганізаваная яшчэ ў 1921 годзе пры Народным Камісарыяце Асьветы ў Менску Навукова-Тэрміналёгічная Камісія. Складалася яна з трох сэкцыяў: прыроднай, матэматычнай і гуманістычнай. Задачы Камісіі агранічываліся спачатку ў сувязі з распачатым тады шырокім будаўніцтвам беларускага школьніцтва — да апрацоўкі і выдаваньня беларускай навуковай тэрміналёгіі, а такжа беларускіх падручнікаў, абаснаваных не гэтай тэрміналёгіі. Згуртаваныя каля Камісіі паважныя навуковыя сілы апрацаваўшы беларускую навуковую тэрміналёгію, распачалі іншыя навуковыя працы, выходзячы гэтым самым паза межы компэтэнцыі Камісіі. Адчувалася дзеля гэтага патрэбна рэарганізацыі Камісіі. У 1922 годзе гэтая рэарганізацыя наступіла і рэарганізаваная Навукова-Тэрміналёгічная Камісія атрымала назоў: Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт).

Спачатку Інстытут складаўся з дзьвух сэкцыяў: гуманістычнай і прыроднай; у гэтыя-ж сэкцыі уваходзілі розныя камісіі. Пасьля кароткага часу Інстытут так пашырыў межы сваей дзейнасьці, што адчувалася патрэба сьцісьлей аформіць арганізацыйную яго структуру. Рада Народных Камісараў Б. С. С. Р.—дзеля заспакаеньня гэтай патрэбы—у 1924 г. зацьвердзіла Статут Інстытуту Беларускай Культуры.

Ад 1924 году Інстытут хутка разьвіваецца і пасьля нейкага часу налічае ўжо 7 сэкцыяў і 8 камісіяў. Рамкі Статуту зноў становяцца цеснымі для працаў Інстытуту.

Наступае зноў думка рэарганізацыі Інстытуту — ў новую установу, тыпу Акадэміі. З гэтай мэтай 7 ліпня 1927 году Рада Народных Камісараў Б. С. С. Р. зацьвярджае новы Статут Інстытуту.

За чатыры гады, лічачы ад 1924 г., Інстытут шырока разьвіў навуковую працу дзеля дасьледаў прыроды, гаспадаркі, гісторыі і мовы Беларусі, згуртаваў навокал сябе каля 500 паважных навуковых працаўнікоў, зарганізаваў студыі дзеля вывучэньня нац. меншасьцяў на Беларусі, утварыў сувязь з 20-цю навуковымі інстытуцыямі, выдаў шмат цэнных навуковых працаў.

Апроч гэтага зарганізаваў некалькі навуковых экспэдыцыяў дзеля вывучэньня натуральных багацтваў Беларусі, яе этнографіі, народнаў штукі і г. д; згуртаваў шмат матэрыялу з галіны моваведы, гісторыі і матэрыяльнай культуры і т. д.

Да рэарганізацыі Інстытуту ў Беларускую Акадэмію Навук, налічаў ён 17 катэдраў з 23-мя сталымі пры ім камісіямі, 18 самастойных камісіяў, 2 інстытуты, 3 музэі і 4 лябараторыі.

Вось кароткая гісторыя паўстаньня найвышэйшай беларускай навуковай установы.

Ня маючы даных, ня буду ўспамінаць аб прабегу рэарганізацыі Інстытуту ў Акадэмію Навук — ад дня гэнай гістарычнай пастановы Ц. В. К. і Р. Н. К. Савецкай Беларусі да 1-га студня 1929, як аканчальным тэрміне рэарганізацыі,—на канчатак яшчэ тут падам толькі выпіскі з стацей нашых некаторых вучоных, стацей прысьвечаных Акадэміі і надрукаваных у № 239 „Савецкай Беларусі" з мінулага году.

Праф. Пічэта, Рэктар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, піша:

„Рэарганізацыя Інбелкульту ў Акадэмію Навук поўнасьцю адпавядае таму навуковаму і культурнаму значэньню, якое займае Інбелкульт у жыцьці Беларусі. Можна толькі вітаць гэту рэарганізацыю, якая зьявіцца новым вялікім штурхачом для разьвіцьця беларускай навукі ва ўсіх яе галінах і для вывучэньня Беларусі з розных бакоў. Беларуская Акадэмія Навук павінна стаць тым цэнтрам, які будзе арганізоўваць навуку, і ў сувязі з якім іншыя навуковыя ўстановы, як Унівэрсытэт, Сельска Гаспадарчая Акадэмія, Вэт. Інстытут павінны знаходзіцца ў самай цеснай навуковай сувязі і павесьці працу па таму пляну, які будзе распрацаваны Акадэміяй Навук".

Праф. Б. І. Эпімэх-Шыпіла:

— „Для Савецкай Беларусі ўтварэньне Беларускай Акадэміі Навук зьяўляецца бязьмерным шчасьцем. Гэта зьяўляецца актам вялікага гістарычнага значэньня на шляху стварэньня беларускае культуры".

„Беларуская Акадэмія Навук стане пуцяводнай зоркай для ўсяго Беларускага Народу. Яна будзе сьвяціць яскравым агеньком і для тае часткі Беларусі, якая зараз ня можа прыняць удзелу ў будаўніцтве беларускай культуры, што шырока разгарнулася ў Савецкай Беларусі.

Няхай рунее Беларуская Акадэмія Навук, як маяк беларукай культуры!"

В. Ластоўскі:

„Працоўныя-ж масы Заходняй Беларусі, Беларусы Латвіі, Літвы, разсыпаныя па Эўропе і Амэрыцы, годна прымуць гэты гістарычны акт ураду Б. С. С. Р., маючы яшчэ адзін цьвёрды доказ, што духовы цэнтр усіх працоўных Беларусаў — Менск".

*Я—іч.*

# ХРОНІКА.

— **IV-ты зьезд „А.Б.С.А."** Дня 16-га лістапада мінулага году ў Пыляўнічай салі Народнага Дому на Каралеўскіх Віноградах ў Празе Чэскай старшыня „АБСА" кал. В. Лаўскі адчыніў IV зьезд Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў. На зьезд прыбылі ўсе дэлегаты беларускіх арганізацыяў, якія ўваходзяць у „Аб'яднаньне", за выняткам дэлегацыі Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, якому труднасьці пашпарговыя не дазволілі прыняць чыннага ўдзелу ў зьезьдзе.

Традыцыйным звычаем, па адчытаньню і прыняцьцю воплескамі тэксту тэлеграмы прэзыдэнту Чэхаславаччыны Т. Г. Масарыку, у якой месьціцца гарачая падзяка Чэхаславацкаму Народу за даньне магчымасьці вучыцца бел. студэнству ў чэхаславацкіх высокіх школах, слова забраў кал. старшыня АБСА ды ў сваей уступнай прамове горача прывітаў гасьцей і дэлегатаў ды абрысаваў у кароткіх словах гісторыю АБСА і ягоныя задачы на найбліжэйшую будучыню. Па прамове старшыні слова ўдзелена дзеля прывітаньняў прадстаўнікам студэнстваў прыяцельскіх народаў, якія асабіста ставіліся на зьезд АБСА. Па прамовах кал. старшыня адчытаў прывітаньні надасланыя з заграннічных студэнскіх цэнтраляў як студэнства галяндскага, нямецкага, італьянскага, эстонскага, канадзкага ды інш. Пазьней удзелена слова прадстаўнікам старэйшага беларускага грамадзянства на эміграцыі гр. Захарку і гр. Вяршыніну ды прадстаўнікам паасобных беларускіх студэнскіх арганізацыяў кал. кал. Д-ру Ільяшэвічу, Абрамчыку, Чарнецкаму. Кароткай прамовай старшыні „АБСА" урачыстая частка зьезду а 12 г. была скончана.

Працоўная частка IV зьезду „АБСА" пачалася а 2-й гадзіне гэтага самага 16 лістападу ў другой ужо частцы чэхаславацкае сталіцы, бо ў Празе II.

Адчыніўшы працоўную частку зьезду кал. старшыня адчытаў толькі што атрыманае прывітаньне Віленскага Студэнскага Саюзу, якое было прынята бурнымі воплескамі. Зьездам была прынята рэгуляміновая пастанова, устанаўляючая на кіраўніцтва зьездам „АБСА" старшыню і сэкрэтара „АБСА", пасьля чаго прыступлена да выкананьня паасобных пунктаў парадку дзеннага.

З дакладамі за мінуўшы працоўны год выступалі па чарзе: кал. Лаўскі — за ўрад „АБСА", кал. д-р Грыб — за прэсавы аддзел, кал. Клімовіч за аддзел міжнародных зносін, кал. Гірыс і Русак за эканамічны аддзел ды кал. Грышкевіч Фр. за сэкрэтарыят. За Рэвізыйную камісію зрабіў даклад кал. Клаўсуць. Аб працы ў паасобных студэнскіх саюзах інфармавалі зьезд кал. Абрамчык за Падэбрады і Пшыбрам, д-р Грыб — за Вольную Грамаду ды інш.

Па дэбатах зьезд адгаласаваў абсалюторыю і вынес падзяку старому адступаючаму прэзыдыуму, пасьля чаго кал. старшыня „АБСА" агаласіў дымісыю ўсіх органаў кіраўніцтва „АБСА". Пачаліся выбары новага кіраўніцтва. У выніку тайнага галасаваньня паіменны склад асобных інстанцыяў ёсьць гэтакі:

I. Урад „АБСА": Вячэслаў Лаўскі — старшыня, др. Тамаш Грыб — віцэ-старшыня і кіраўнік прэсавага аддзелу, Фёдар Клаўсуць — кіраўнік міжнародных зносін, Лявон Гірыс — кіраўнік эканамічнага аддзелу, Францішак Грышкевіч — сэкрэтар, кандыдат да ўраду Аляксандар Вітушка.

II. Рэвізыйная камісыя: Чарнецкі Мікола — старшыня, Орса Александар — секрэтар, Сак Янка — сябра.

III. Суд гонару: Александар Вітушка, Мікола Чарнецкі, Юрка Бурак.

Новаму кіраўніцтву трэба толькі пажадаць сталёвае трывалкасьці і сталёвых ног, бо праца страшэнна цяжкая і на чародны кангрэс CIE ў Будапэшце (Вугрыя) трэба будзе йсьці пехатою. (*Прысутны*).

— **Агульны гадавы сход сяброў Б.С.С.** адбыўся дня 20.X.28 Уступаючы стары ўрад на чале з кал. І. Гагалінскім здаў абшырную справаздачу з працы Саюзу за мінулы год. Сход, выслухаўшы справаздачу, выразіў старому ўраду абсолютор'юм. Пасьля гэтага сход разгледзіў далейшыя справы, стаяўшыя на парадку дня і вынес адпаведныя пастановы. З апошніх важнейшыя — наступныя: 1. зьменены Сходам нікаторыя месцы ў статуце Б.С.С., 2. выбраны ўрад Саюзу на наступны (1928-29) акадэмічны год у складзе: 1) старшыня — Міхась Тулейка, віцэ-старшыня — Янка Шутовіч, сакрэтар — Анатоль Шкутка, скарбнік — Аўгень Бартуль, вольны сябра — Мар'я Скурчанка. 3. у Рэвізыйную Камісію на новы акад. год выбраны: Мікалай Шкелёнак, Вера Уласэвічанка і Ул. Шыран, 4. сход зацьвердзіў рэдактарам часопісі „Ст. Думка" кал. Я. Шутовіча; яму-ж таксама даў права рэарганізаваць Рэдакцыйную Калегію; 5. Сход выразіў шчырую падзяку епякуну Саюзу праф. Владычцы і запрасіў яго апякавацца саюзам і ў далейшым часе; 6. на IV зьезд АБСА (Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў), які як ведама адбыўся 16 лістапада мін. году ў Празе чэскай, выбраны ў характары дэлегатаў ад Б.С.С. калегі: Міхась Тулейка і Янка Шутовіч*).

— **Зьмены ў Рэдакцыйнай калегіі „Студ. Думкі".** На мейсца выбыўшага з Рэд. калегіі кал. І. Гагалінскага — з прычыны складаньня ім дыплёмовых экзаменаў — уступіў кал. Я. Зянюк. Склад калегіі цяпер такі: А. Бартуль, Г. Вялецкі, М. Тулейка, Я. Зянюк і Я. Шутовіч.

— **Лекцыяў з беларусазнаўства і популярнай веды,** арганізаваных Б.С.С., — адбылося за першы трымэстр бягучага акадэмічнага году — 18. Прачыталі запрошаныя Б.С.С. лектары гр. А. Луцкевіч — з гісторыі беларускага адраджэньня — 4 лекцыі: др. Я. Станкевіч — з моваведы — 2; кс. В. Гадлеўскі — з популярнай веды — 2; др. І. Дварчанін — з популярнае веды — 2; кс. А. Станкевіч — з беларускай этнаграфіі — 5; гр. І. Савіцкі — з першага пэрыяду гісторыі Беларусі (Полацкі) — 3. Кіраваў лекцыйнай сэкцыяй Б.С.С. у першым трымэстры кал. Я. Шутовіч. Лекцыі адбываліся амаль кожную нядзелю, ад 4-ай да 6-ай гадз. п. п.

Беларускае грамадзянства, а прадусім студэнства хіба-ж ёсьць удзячнае паважаным прэлегэнтам за навуку атрыманую з іх лекцыяў.

Апроч гэтага Б.С.С. у першым трымэстры зарганізаваў рэфэрат прачытаны інж. Гузоўскім дня 10.XI.28 на тэму: „Жыцьцё беларускае студэнскае моладзі на эміграцыі".

У 2-м трымэстры (пасьля новага году) адбыліся лекцыі з беларусазнаўства, прачытаныя 3.II. с.г. А. Луцкевічам — на тэму: „Напевы ліры Янкі Купалы" і 17.II. інж. Л. Дубэйкоўскім на тэму: „Рэформа дзераўлянага будаўніцтва"; у гэты-ж дзень быў прачытаны рэфарат інж. А. Клімовічам — на тэму: „Студэнскім шляхам", які, дзеля яго асаблівшай вартасьці для студэнства, зьмяшчаем у гэтым нумэры.

*) Праўда, дэлегатам гэтым з прычын пашпартовага характару не ўдалося на зьезд выехаць. Урад Б.С.С. абмежаваўся дзеля гэтага высланьнем толькі прывітальнай тэлеграмы зьезду.

Быў яшчэ прачытаны 27.I. кал. Ул. Шыраном рэфэрат на тэму: „Хвароба рак у чалавека.“

— **Суботнікі ў Б.С.С.** Урад Бел. Студ. Саюзу, каб даць магчымасьць паскакаць сваім сябром, наладзіў некалькі суботнікаў — танцавальных вечарынак.

— **Промоцыі.** 12.X.28 на ўнівэрсытэце Караля IV у Празе чэскай адбылася промоцыя на дохтара філёзофіі Міколы Ільяшэвіча — па сканчэньні географічнага аддзелу філёзафічнага факультэту. Др. Ільяшэвіч працуе спэцыяльна над антрополёгіяй; ён-жа напісаў працу п. н. „Беларусь як антрополёгічная цэласьць“. Др. М. І. меў намер вярнуцца яшчэ ўвосені мін. году на Бацькаўшчыну — ў Вільню, аднак з прычын пашпартовых (польскае консульства ў Празе не дае пашпарту) ня можа гэтага зрабіць і змушаны пакуль-што заставацца на чужыне.

— 24.XI.28 г. на ўнівэрсытэце С. Б. у Вільні адбылася промоцыя на дохтара ўсіх лекарскіх навук (M.U.Dr.) гр. Язэпа Жука, — па сканчэньні мэдыцынскага факультэту. Др. Я. Жук праз увесь час на ўнівэрсытэце быў сябром Бел. Студ. Саюзу.

— Дня 15.XII.28 г. на У. С. Б. у Вільні адбылася промоцыя на дохтара ўсіх лекарскіх навук гр. Малея, — Беларуса.

— **Беларускія інжынеры.** У канцы мінулага году скончылі ў Празе чэскай высшыя студыі студэнты—Беларусы: Адольф Клімовіч — агранамічны аддзел політэхнікі—з тытулам інжынера аграноміі, Аўгэнь Дыліс — высокую гандлёвую школу — з тытулам інжынера гандлёўца, Міхась Гарошка — лясны аддзел політэхнікі — з тытулам інжынера лясьніка. Усе пералічаныя інжынеры зараз пасьля экзаменаў вярнуліся на Бацькаўшчыну (двух першых у Вільню), гдзе аддаліся працы на роднай ніве.

— **Абсолютор'юм** дня 15-га сьнежня мін. году на У. С. Б. у Вільні дастаў студэнт мэдыцыны І. Гагалінскі, б. старшыня і сябра Б. С. С.

**Вечарыны-прадстаўленьні Б. С. С.** Дня 24 і 25-XI 28 у салі Беларускага Інстытуту Г. і К. у Вільні Бел. Студ. Саюзам супольна з тэатральнай сэкцыяй Інстытуту былі наладжаныя тэатральныя прадстаўленьні. Пастаўлены былі „Залёты“ — камэдыя ў 3 актаў В. Д. Марцінкевіча.

**Акадэмія** у чэсьць Міхася Чарота, ладжаная Бел. Ст. С. з прычыны яго дзесяцілетняй працы на літэратурнай ніве, адбылася у салі Віл. Бел. Гімназіі 9-XII.-28. Выкананая добра праграма складалася: 1) з прачытанага кал. А. Бартулем рэфэрату аб жыцьці і творчасьці паэты, 2) дэклямацыяў вершаў і 3) хору — пад умелым кіраўніцтвам гр. Шырмы.

**1-шы тавараскі студэнскі вечар.** Дня 10-га лютага г. г. у памешканьні Літоўскага Студэнскага Саюзу ў Вільні адбыўся таварыскі вечар студэнтаў: Беларусаў, Літоўцаў і Украінцаў. Вечар гэты запачаткаваў так патрэбную працу над зблiжэньнем студэнства беларускага, літоўскага і ўкраінскага, — студэнства, якое роўна з сваімі народамі дзеліць долю і нядолю ў межах Польшчы. Абставіны, жыцьцё і супольныя інтарэсы — змушаюць студэнства літоўскага, бела-

рускага і ўкраінскага народаў — узаемна зблізіцца, пазнацца і супольна працаваць у будучыне. Аб гэтым так-жа казалі і падчырківалі ў сваіх прывітальных прамовах прадстаўнікі студэнскіх саюзаў: Літоўскага — кал. Блажыс, Беларускага — кал. Бартуль і Украінскага — кал. Сагайка. На праграму вечара склаліся: 1) рэфэрат аб „Адраджэнскім украінскім руху", прачытаны падчас гарбаткі — пры стале — калегам Вацыкам (Украінцам), 2) дэклямацыі вершаў і песьняў — літоўскіх, украінскіх і беларускіх і 3) розныя гульні і карагоды, пераплятаныя скокамі, перадусім нацыянальнымі.

Вечар працягнуўся за поўнач. Хто быў на ім — хіба-ж доўга захавае ў памяці прыемныя і раскошныя з яго ўражаньні. Падчас вечару адбылася так-жа і супольная фотографія.

Падобныя вечары і г. п. імпрэзы маюць адбывацца чаргова: у Літоўскім, Беларускім і Украінскім студэнскіх саюзах.

**— 2-гі таварыскі студэнскі вечар.** Гэтым разам выпала на долю зарганізаваць яго Бел. Студ. Саюзу. Ён-жа і адбыўся дня 4-га сакавіка с. г. У праграме рэфарат — на тэму: „Адраджэньне Беларусі", — які прачытаў паважна апрацаваўшы, — кал. Я. Зянюк. Дапоўнілі праграму — гульні і песьні. Гэтым разам вечар вышаў „посным", бяз скокаў.

**Памёр Веч. Макоўскі.** 7-га сакавіка г. г. адбыліся хаўтуры Студэнта мэдыцыны Праскага Унівэрсытэту Вечаслава Макоўскага, памёршага лукішскім вязьням.

Беларуская моладзь аддала апошні доўг нябошчыку, праводзячы цела яго на могілкі. Нельга не зазначыць факту,—арышту пасла Грэцкага ў часе яго прамовы на могілках.

**Дапамогі.** Урад Б.С.С. жадаючы распачаць больш інтэнсыўную працу ў Б.С.С., зьвярнуўся ў канцы мінулага году да беларускіх пасольскіх клюбаў з просьбай ападаткавацца на 5% ад пабіранае пэнсыі на карысьць Б.С.С.

Адзін з клюбаў—Беларускі Работніцка-Сялянскі Пасольскі Клюб —прызнаў Б.С. Саюзу месячную дапамогу, ападаткоўваючы сябе на 5% ад сваіх пэнсыяў, якую пачаў ужо рэалізаваць ад 1-га студзеня г. г., за што Урад Б.С.С. выразіў сваю шчырую падзяку Бел. Раб.-Сял. Пас. Клюбу лістоўна.

Другі клюб — Беларускі Пасольскі Клюб—да гэтага часу яшчэ ня вырашыў просьбы Ураду Б.С.С. аб дапамозе.

**Пратэст беларускага каталіцкага студэнства У.С.Б.** Дня 15-га сьнежня м. г. ініцыятыўнай групай быў склікаены сход студэнтаў Беларусаў каталіцкага веравызнаньня віленскага унівэрсытэту. Сход адбыўся у памешканьні Б.С.С. У парадак дзенны сходу ўваходзіла паміж іншым справа адозвы Віленскага Каталіцкага Арцыбіскупа з дня 10-XII 1928, забараняючая усім каталікам віленскай мітраполіі належаць да партыі Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі а такжа выпісваць і чытаць яе орган „Беларускую Крыніцу".

Сход выслухаўшы даклады ў гэтай справе пастанавіў рашуча запратэставаць супроць адозвы Віленскага Арцыбіскупа і пратэст падаць да публічнага ведама праз газэты. Пратэст, як ведама, надрукаваны быў у № 58 „Бел. Крыніцы — з 1928 г.

**Аб пацзеях у Віленскай Беларускай Гімназіі.** Падзеі ў Віленскай Бел. Гімназіі, у выніку якіх дырэкцыя гімназіі выдаліла больш за 60 вучняў, большасьць з якіх можа наагул страчаная для беларускае нацыянальнае працы, адбіліся прыкрым рэхам сярод беларускага грамадзянства, якое аднак на жаль да гэтае пары не забрала з прычыны гэтых сумных выпадкаў голасу.

Беларускае студэнства, якога абавязкам ёсьць падтрымліваць сувязь з сваімі малодшымі калегамі з гімназіяльнай лавы, моцна занепакоена ўспомненымі падзеямі і іх вырашэньнем.

Тлумачэньне дырэкцыі, што вучні выдаленыя за нарушэньне школьнае дысцыпліны, ёсьць чыста фармальным падходам да справы. Бо-ж ведама ўсім, хто школьнымі справамі цікавіцца, што ня так даўна школьная дысцыпліна была тасавана ў зусім іншых рамках, у зусім іншай плошчы.

І тут трэба шукаць перадусім крыніцы сумных выпадкаў.

Ня хочам шукаць вінаўнікаў гэтых падзеяў, бо такія хіба ёсьць, аднак сьцвярджаем бязумоўны нашым зданьнем факт, што гімназія, як найважнейшая для кожнага беларуса культурна-асьветная ўстанова, ня можа ўніякім выпадку стацца аб'ектам, дзеля якога і за які змагаліся-б тыя ці іншыя палітычныя групы.

А ўцягіваньне школьнай моладзі (асабліва малодшых клясаў), якая ня можа адказваць за свае паступкі, якіх не разумее, а за якія аднак панясла і паносіць прыкрыя консэквэнцыі — прыносіць ганьбу тым, хто сьведама да такіх выступленьняў, як тыя, якія мелі месца 27. II. 29 г., моладзь пхае. Бо і такія хіба ёсьць.

Беларускае студэнства стаіць на тым становішчы, што палітычная барацьба сярод старэйшага грамадзянства ня можа ніколі ў сваіх скутках даводзіць да руіны ўсяго таго, што з такім высілкам усяго грамадзянства ўдалося збудаваць і да гэтае пары, міма найвялікшых перашкод, пры жыцьці утрымаць, асабліва маем на думцы культурна-асьветныя ўстановы.

Мы пераканаԧы, што самае нэгацыя-ёсьць дзейнікам дэструкцыі, ёсьць звычайным бурэньнем і як такое—аднолькова шкоднае для ўсіх беларусаў бяз рожніцы пераканаԧьняў.

Замест крок за крокам будаваць, ці ўгрымліваць збудаванае, бурыцца нават і тое, што і так не стаіць на трывалых фундамэнтах.

Калі-ж нарэшце наступіць апамятаньне?

**Аднэй газэтай менш.** Пасьля цэлагу шэрагу канфіскатаў перастала выходзіць у Вільні газэта „Праца", часопісь беларускіх радыкалаў.

**„Шлях Моладзі."** Так называецца месячная часопісь беларускае моладзі, якой першы нумар вышаў у пачатку месяца сакавіка. Часопісь робіць сымпатычнае ўражаньне. Гуртуе яна каля сябе моладзь, якой, як з месту часопісі можна бачыць, прысьвячае ідэал вольнай і незалежнай Беларусі і дабро Бацькаўшчыны

Шчыра вітаем прыгожыя пачынаньні моладзі, згуртаванай каля „Шляху Моладзі."

Рэдактар-Выдавец **Янка Шутовіч.**

# Адозва Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў.

## Да ўсяго Беларускага Грамадзянства.

У цягу стагодзьдзяў народ наш беларускі цярпеў пагарду і зьдзекі—нават імя свайго быў пазбаўлены. У роднай хаце сваей—бацькаўшчыне Беларусі — на сваей роднай зямлі ня меў права жыць па сваей уласнай волі, сваім адумам ствараць лад новага жыцьця.

Аж прабіў час праўды і волі. Паўстаў народ і сягнуў зьдзейсьняць свае неадоймныя правы чалавека і грамадзяніна—„людзьмі звацца"!

Першымі пачынальнікамі сучаснага беларускага вызвольна-адраджэнскага руху былі, як ведама, студэнскія гурткі—гэта была беларуская моладзь, вышаўшая з сярмяжнае сялянскае сям'і.—Асьвечаныя сыны мужыцкія несьлі ад хаты да хаты па ўсей Беларускай зямлі новыя весьці — адраджэньня і вызваленьня. Сонца навукі скрозь хмары цёмныя прабіла шлях да новага жыцьця.

І сяньня беларускае студэнства, прадаўжаючы славэтную традыцыю сваіх папярэднікаў, духоўных бацькоў і настаўнікаў, пачынальнікаў беларускага вызвольна-адраджэнскага руху, здабывае веду, каб нясьці яе пад стрэхі роднае хаты, цьвёрдае маючы пераконаньне, што веда—ёсьць адзіны шлях сапраўднага адраджэньня і вызваленьня,—толькі веда ёсьць тая магутная сіла, якая вывядзе наш народ на шырокі шлях самаістае творчасьці і гістарычнага поступу.

Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў, паставіўшае сваім заданьнем арганізацыю ўсяго беларускага студэнства, бяз розьніцы палітычных пераканаьняў, а выключна на акадэмічным грунце, ужо некалькі гадоў вядзе напружанае змаганьне за ўмацаваньне культурнае традыцыі, за нацыянальную годнасьць беларускага студэнства. З поўнай сьведамасьцю гэтага і маральнай адказнасьцю выступае перад сусьветным студэн-

ствам, аб'яднаным у С.І. Е. — бароніць імя і нацыянальную годнасьць Беларусі ад варожых нападкаў.

У жніўні с. г. адбудзецца XI кангрэс С.І.Е. у Будапэшце. Да гэтага Кангрэсу А.Б.С.А мае быць падрыхтавана і на ім адпаведна прадстаўлена, маючы на ўвазе цяжкую спробу мінулага кангрэсу, які адбыўся ў Парыжы.

Грамадзяне! Дзейнасьць А.Б.С.А ня можа быць для Вас чужою, — гэта ёсьць справа ўсяго беларускага грамадзянства. Таму АБСА. зьвяртаецца да Вас з заклікам аб маральным і матэр'яльным падтрыманьні. Дапамажэце хто чым можа — добрым словам і парадаю, грашовымі ахвярамі. Усе шаноўныя ахвярадаўцы хай ня спыняюцца перад вялікасьцю або дробнасьцю ахвяр — хто колькі можа. Ня веліч ахвяры мае значэньне, а шчырасьць і жаданьне пайсьці на сустрэч імкненьняў беларускага студэнства.

Ахвяры прыймаюцца: 1. Tchécoslovaquie, Praha, — Nusle, Vlastislavova č. 8. Ing. c. V. Laŭski; 2. Вільня, вуліца сьв. Ганны № 2 — Беларускі Студэнскі Саюз.

Усе ахвяры з найменьнем ахвярадаўцаў запісываюцца ў асобную памятковую кнігу ахвярадаўцаў на справу АБСА.

Прага, люты, 1929 г. *Прэзыдыум АБСА.*